4"2003

# CD

## СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

# шоў-біз



Шалёна масірую далонямі сківіцы, якія дзіка сьвярбяць. Арганізм ужо на фізычным узроўні пачынае рэагаваць на чарговае ашуканства. Яшчэ хвіліна - і далонь, складзеная ў папулярны ў гэтым краі аргумэнт - кулак, - разаб'е роўнядзь кінэскопа Thompson. Пытаньне "хто наступны" ўжо неактуальнае: рыхтуйцеся загінаць пальцы і падлічваць ахвяраў!..

Можа, я і не хацеў так рабіць. Яно неяк само. Першым мае дэструктыўныя памкненьні дапамог рэалізаваць FM-прымач: порцыя ЗПР-песень у рэтрансьляцыі "Хіт" - ня самы лепшы пачатак раніцы. Прытым, вы ж ведаеце: чалавечая сьвядомасьць пасьля сну такая неадэкватная! У выніку - нэрвовае ўзрушэньне ў ката, да якога даляцела шмацьцё корпусу старэнькага прымача Sony, і лекцыі маці па тэме "Зарабляць пачні, а пасьля выкідай радыё!" Затое з хаты зьніклі затармажаная "Авария", тупарылыя "Гости" і старпёрныя Modern Talking...

Лярва з тэлекаўскай рэкламы ніяк ня спыніцца - зноў нешта тлумачыць з нахабнай усьмешкай. Ды так натхнёна, так самазабыўна, што маці ледзь пасьпявае папярэдзіць кантакт кулака зь кінэскопам.

Я не прэтэндую на новыя "99 франкаў", але таксама спрабую зразумець, чаму так залежу ад "соевага" шоў-бізу. Спрабую хаця б таму, што праймае пякотка ад ТБ-, радыё-, кіна-ідыятызму. Ці думаў калі Ўсявышні, што адзін зь Ягоных запаветаў загучыць пытаньнем: "Не ствараў сабе куміра? Адну хвілінку!.."

Блін, загінайце пальцы, чувакі...

CD
студэнцкая думка

## знойдзеш нас у гэтых месцах

- крама **"TOM TAILOR"** (Менск, пр. Скарыны, 37)
- крама **"LEVI'S"** (Менск, пр. Скарыны, 48)
- крама **"ПОДЗЕМКА"** (Менск, пр. Скарыны, 43)
- крама **"БУНКЕР"** (Менск, вул. Казлова, 14)
- крама **"CAMELOT"** (Менск, пр. Скарыны, 44)
- крама **"МИСТЕРИЯ ЗВУКА"** (Менск, вул. Няміга, 12)
- ГЦ **"ПАРКИНГ"** (Менск, вул. Куйбышава, 40, крама "FUJIfilm")
- аўтобусы **"INTERCARS"** і офіс **"INTERCARS"** (Менск, пр. Машэрава, 19, оф. 1-6)
- крама **"ПЕРЕХОД"** (падземны пераход каля ГУМа)
- крама **"КОМПЬЮТЕРНЫЙ МИР"** (вул. К.Чорнага, 31)
- інтэрнэт-клюб **"iPOINT"** (вул. Румянцава, 15)
- інтэрнэт-цэнтар **"Площ@дка"** (пр. Скарыны, 58-4)
- **"ЦЕНТР МОЛОДЕЖНЫХ ПУТЕШЕСТВИЙ"** (вул. Варвашэні, 17-101)
- офісы фірмы **"DAAS"** (вул. Калініна, 7, оф. 55; пр. Скарыны, 93, пад'езд 5, цокаль, оф. 7)


CD **/СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА/ #4 (88) 2003 г.**

**Заснавальнік:** грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"
**Выдавец:** рэдакцыя "Студэнцкай Думкі"

**Галоўны рэдактар** Ірына Віданава

**Рэдактары**
Мікола Шакель /mikalaus@hotmail.com/
Сяргей Сахараў /2ss2@tut.by/

**Камэрцыйны дырэктар**
Аляксандар Казлоўскі
/alex-iskander@mail.ru/
/па пытаньнях рэклямы - 8 (029) 626-69-36/

**Стыль і карэктура**
Алесь Кастыка

**Вёрстка** achuma_group
**Дызайн вокладкі** vitaminv

**Адрас рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19
**Пэйджэр:** 206-75-75, абанэнт "DYMKA"
**Адрасы для допісаў:** 220030, г. Менск-30, п/с 90
studumka@tut.by
www.studumka.com

Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.

Меркаваньні аўтараў часопіса не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя зьвесткі строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за рознага кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.





Друкарня ТДА "НоваПрынт".
Ліцэнзія ЛП № 285, выдадзеная Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусь 28.07.1998 г.
Фармат 60x84 1/8
Папера мелаваная 90 г/м$^2$
Падпісана ў друк 23.04.2003 г.
Замова № 487
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны

# ЗЬМЕСТ




kingdoms of
BELARUS

36-39



у рок-н-ролу
ногі ў брудзе...

12-13



26-29

17-21





23-25



14-16





35, 40

## Размаўляй са мной па-беларуску

Пасьля Google.com і Altavista яшчэ адзін вэб-бастыён паў! Партал TUT.BY знайшоў у сабе моцы перакласьці інтэрфэйс сваёй пошты на беларускую мову. Нарэшце людзі маюць магчымасьць пісаць і атрымліваць ня "пісьмы", а нармальныя "лісты".




Такім чынам: для таго, каб зьмяніць мову інтэрфэйсу ўласнай (на жаль, пакуль толькі скрынкі), трэба:
1. Зайсьці ў яе праз www.tut.by ці mail.tut.by.
2. Зайсьці ў "Настройки" - там першым пунктам стаіць "Язык", дзе трэба абраць "па-беларуску". Націснуць "Изменить".
3. Пасьля гэтага трэба выйсьці са сваёй скрынкі ("Выход") і ўвайсьці зноў.
Для дбайных аб чысьціні матчынай мовы: для вас у чарговы раз знайшлася праца. У фэйсе процьма памылак, прытым зроблена ўсё на наркамаўцы.
Для пафігістаў: новы фэйс - някепская нагода для штодзённага вывучэньня белмовы.
Для ўсіх: ня выключана, што ў хуткім часе ўвесь партал пяройдзе на беларускую. Прынамсі, яна будзе функцыянаваць паралельна з расейскай.
М.Б.

## Нэн Гольдын - голая праўда жыцьця

Гэтая "арыгінальная" мэтафара скразіла з большасьці польскіх выданьняў, якія зрэагавалі на выставу амэрыканкі Гольдын у варшаўскім Цэнтры сучаснага мастацтва. Скандал атрымаўся як мае быць: напачатку амэрыканка ўсяляк супраціўлялася прапановам выставіцца ў Польшчы, але вялікімі намаганьнямі дырэкцыі гэта ўдалося зрабіць. Пасьля - болей: пурытанская грамадзкасьць абвесьціла місіс Гольдын вычварэнкай, вуаерысткай і старой парнушніцай бяз густу.
Devil's Playground шакуе звычайнасьцю і штодзённасьцю сюжэтаў фатаздымкаў. Па-першае, вялікімі - 0,5*1 м - фоткамі людзей, мужчынаў і жанчынаў, якія думаюць, зносяцца, кахаюцца, паміраюць. Прытым гэта мала падобна да таннай парнушкі, але цалкам адпавядае звычайнаму жыцьцю. На ня першай сьвежасьці прасьцінах, валасатыя, дзе-нідзе з цэлюлітам целы пераплятаюцца ў жарсьці, горы і сьмерці. Па-другое, тая насьцярожанасьць, якая ёсьць падчас кожнага наведваньня храму мастацтва, замяняецца на радаснае зьдзіўленьне - як мы ўсё-ткі падобныя!
"Выстава прысьвечаная спробам перадаць пачуцьці, якімі ахопленыя іншыя людзі, - кажа Нэн. - Паміж людзьмі - шкло, і я спрабую яго разьбіць. Спрабую трапіць разам зь людзьмі ў сьвет сяброўства, робячы пра гэта фота".
Дарэчы, калі тэорыя пра адбіцьцё душы чалавека на фотцы мае рацыю, то Гольдын з посьпехам паспрабавала адлюстраваць у сваёй выставе дарагіх для яе людзей. Атрымліваецца, і для нас дарагіх таксама.
Л.Б.




### Трэш на вуліцах Менску



Фантазія маладых трэш-актывістаў пакуль не выпаўзае далей за брудныя джынсы і штучна падраныя майкі. А шкада! Бярыце прыклад з брыгадаў будаўнікоў, што працуюць на вакзальным Макдоне: занюдзганыя баваўняныя нагавіцы колеру хакі, старыя балёневыя курткі з плямамі ад фарбы, брудна-шэрыя майкі і неакрэсьленай маркі боты. Тое насамрэч актуальна.

### Сярога



Нарэшце зьявіўся сапраўдны беларускі гангста-рэп - моцны і шчыпкі як партвэйн "Спадчына", зубаскрышальны як зьдз*юлі пацаноў зь Серабранкі. І самае галоўнае - сапраўдны. Шукайце сынгл "Загубілі Лялю", бляха муха! (www.westrecords.by)

### Вечарынка "Космас наш!"



У барацьбе за запамінальны сьлёган ня мусіць быць пераможцаў і пераможаных. У Дзень касманаўтыкі хапае месца для ўсіх заваёўнікаў Марсу і Юпітэру. Але пагадзіцеся, што ў варыянце JetSounds Cosmic corp. - лепшага менскага Цэнтру кіраваньня палётамі - вэрбоўка ў астранаўты выглядае больш натуральнай. Кудрашоў і Касач - ака Каралёў і Цыялкоўскі!

### вэвэвэ.мэйл.тут.бай




Нашая пошта загаварыла па-наску!

### Нэн Гольдын



Лепшая фотакранікерка сапраўднага чалавечага жыцьця - голага ў эмоцыях і целе.




### Diesel



Мача ня плачуць. А ў Mr. Braveheart - сьлёзы з гарох.

### Бадзяжныя сабакі на праспэкце



Толькі і застаецца дзівіцца, якія людзі (мы ўсе) брыдкія стварэньні. У прасталінейнасьць прамэнадаў па галоўным праспэкце сталіцы ўпісваецца нашая пыха, важнасьць і дзелавітасьць. Толькі не бадзяжныя сабакі. Але ж яны, якіх некалі называлі "сябрамі", а пасьля выкінулі з дому, каб здыхалі на вуліцы ці ў скурадзёрні, - тое, што чакае кожнага з нас у наступным жыцьці. Чытайце "Бхагават-Гіту" і рыхтуйцеся…

### "Краски"



Ходзяць чуткі, што прадусара лепшага беларускага teen pop пасадзілі. Так-так, за краты - ці то на Валадарку, ці то яшчэ куды... Прачытайце матэрыял Гнёта ў гэтым нумары.

### "Барскія" вечарынкі



Ніколі ня быў на "pretty"-вечарынках, але ўжо адныя месцы правядзеньня і абяцаньні "асабістага фэйс-кантролю на ўваходзе" напружваюць. Не, рукі не пацеюць, але робіцца ніякавата. Аказваецца, "залатая моладзь" ня вымерла, а мімікравала. І зараз гатовая купляць шчасьце на ноч у рэстарацыі для клеркаў небагатых менскіх бізнэс-установаў (ясна, усё зьведваецца ў параўнаньні) за 21 эўра. Для асабліва спрытных маюцца плястыкавыя карты-фляеры, якія даюць права на ільготны (SIC!) доступ на баль і якія разьлятаюцца як дармовы дрынк.
Вось ужо гэтая нясьціплая прывабнасьць маладой буржуазіі! Барства ня ў модзе, спадары-таварышы!

### "Галяндзкае нашэсьце"



Прыезд сябрукоў - хай сабе і з Галяндыі - ня варта рабіць публічным.

## Diesel абрабавалі

Так проста: бяз масак з тварамі экс-прэзыдэнтаў, без вадзяных пісьцікаў, бяз гангстэрскага нахабства! Зайшлі, забралі - і пайшлі!
Крыху падрабязнасьцяў.
Зайшлі злодзеі ў краму, як прыстойныя людзі зачынілі за сабой дзьверы (на ключык), а паколькі Diesel - марка троху элітная, то ў памяшканьні не аказалася ніводнага шараговага закладніка. (Дзякуючы якім Колю-Дусі можна было б пасьля раскруціць апраўдальную брэнд-правакацыю. Дулю табе!) Ні-ко-га! Адно што гаспадары, якім настойліва параілі аддаць выручку крамы. І тыя людзі, якія неаднойчы пазыцыянавалі сябе як, гм-м-м, героі (?), так вось проста здаліся на літасьць шэрых менскіх бандзюганаў. А тыя нібыта на зьдзек у дадатак да касы прыхапілі пару рэчаў з новых калекцыяў Diesel і Americanos.
Крыху высноваў.
Вось табе і маеш - "адважны сэрцам" Уладзімер Z (гаспадар крамы/чалавек, які возіць у вялікіх валізках тавар з братніх краінаў былога сацлягеру), з кампаніяй "нязломкаў" (прынамсі, так можна было зразумець з рэклямы менскага Diesel) здольныя да банальнага анансаваньня Only the Brave лайф-стайл, але зусім не да актыўнага яго прапагандаваньня. Героі ўчорашніх дзён?..
С.С.

## "Галяндзкае нашэсьце"

Эксклюзіўную магчымасьць зрабіць разумны твар атрымалі заўзятары навамодных культурных тэндэнцыяў 7 і 8 красавіка ў будынку музэю "з гарматай". У рамках фэсту "Галяндзкае нашэсьце" на ўсеагульны агляд былі выстаўленыя імпартныя прыклады сучаснай нідэрляндзкай фатаграфіі. Ідучы за эстэтыкай выключнага мінімалізму, работы ўдалося пералічыць па пальцах уласнай рукі.
Калі ты выявіў сябе ў той самы час у тым самым месцы, а зараз ня ведаеш, як аднавіць здаровы сон і дабрабыт, што моцна пахіснуўся (мінус brb 750 дзеля мастацтва), - не адчайвайся. Ты не адзін у сваіх мучэньнях, і наракаць на абмежаванасьць уласнай сьвядомасьці ня варта.
Імкненьне падацца куды больш разумным і кемлівым, а таксама знайсьці сусьветны сэнс у рэчах, у якіх ён не прадугледжаны - звычайная хвароба сталічных разумнікаў. І нават самае бурнае захапленьне ад курынай скуры на жаночай галаве ці кіслароднай масკі на цяжарным пузе - ня больш як эгаістычны страх падацца лохам.
Нам жа ўсё зразумела: БМГА "Нью Фэйсэз" зь беларускага боку як арганізатар запрасіла на вясновыя вакацыі ў Менску сяброў з Zesde Kolonne, а заадно і фэст сфабрыкавалі. Каб сумна не было.
А.Г.

# шоў!

***Неяк сьмешна робіцца, калі чуеш нешта кшталту*** *"шоў-бізнэс - гэта спараджэньне 20 стагодзьдзя".* ***Усё, што вы прачытаеце ніжэй, заклікана ўпэўніць вас у адной простай рэчы - шоў-біз быў заўжды, адно што называўся ён па-рознаму.***

***Прынамсі, так думае*** *вячаслаў скугарэўскі.*

Многія разумныя таварышы сыходзяцца ў меркаваньнях на тым, што шоў-біз, яго першапачатковая ідэя караніцца, як гэта ні парадаксальна, у рэлігіі. Ясная справа, што людзям трэба заўжды некаму пакланяцца. Цягам стагодзьдзяў эўрапейскі каталіцызм трымаў сваю кліентуру ў стане зацікаўленасьці - адпаведна і шоў-бізу ніякага не намячалася. А вось нямецкі сьвятар Мартын Лютэр першым заўважыў: нявесела, спадарства, жывем. І напісаў свае 12 тэзысаў, якія прыбіў да дзьвярэй кляштару. Вакол адразу сабраўся натоўп. Стала весела. Пачалася ідэалягічная вайна супраць кансэрватарскага каталіцызму. Так нарадзіліся пратэстантызм і шоў-біз.

Гады ішлі, царква патроху губляла ўплыў на масы, і масы гэтыя пачалі сумаваць. Калі я кажу пра масы, то маю на ўвазе, безумоўна, не маўклівых сялянаў, якія акапаліся на сваіх гародчыках, а народ больш-менш забясьпечаны. Гэтаму народу ўжо не хапала адной-адзінай рукапіснай кнігі на ўвесь горад. Ягана Гутэнбэрга, які вынайшаў друкарскі станок, разам з шоў-сьвятаром Лютэрам можна лічыць бацькам-заснавальнікам шоў-бізу. Зь 15 стагодзьдзя па 19-ае самымі буйнымі шоў-бізнэсмэнамі былі, натуральна, пісьменьнікі і каралі. Каралі будавалі сабе палацы, кідалі мільярды на прыёмы і апранахі, ваявалі і браліся шлюбам - прыгожа, халера яго вазьмі!.. Не адставалі і пісьменьнікі. Да ангельца Сэмюэля Рычардсана штораніцы прыяжджалі міністры і цікавіліся, ці не знайшоў ён часу напісаць нешта новенькае. Да Вальтэра стаяла доўгая чарга багацеяў, якія хацелі даць яму грошай...

Шоў-біз пачатку 19 стагодзьдзя квітнее і буяе. Як і цяпер, прагрэсіўны народ чытаў адно і тое ж, слухаў адно і тое ж, захапляўся аднымі і тымі ж кумірамі. У тройку суперстараў таго часу ўваходзяць імпэратар Францыі Напалеон Банапарт, ангельскі паэт Джордж Байран і італьянскі кампазытар Джаакіна Расіні. Кожны з гэтай тройцы сымбалізаваў Свабоду і Сучаснасьць.

Напалеон пракаціўся па Эўропе ачышчальнай бурай. Байранам зачытваліся рамантычныя юнакі. Опэры Расіні з трыюмфам ставілі па ўсім сьвеце, ад Вільні да Вашынгтону. Між іншым, усе яны ўтрымалі плянку да гэтага дня - веліч не паблякла пад напорам часу.

Напрыканцы 19 стагодзьдзя расеец Фёдар Цютчаў заўважыў, што ў Эўропе пакланеньне чалавеку стала новай рэлігіяй. Гэта страшэнна хвалявала паэта, і ён нават знайшоў у сабе сілы прадказаць жудасныя пэртурбацыі ў Нямеччыне. Што сталася з Германіяй у 1920-1940, вядома ўсім, але фішка ў тым, што палітыкі і зараз - шоў-біз чыстай вады: з рэйтынгамі (гіт-парадамі), з постэрамі, якія прадаюцца ў кожнай кнігарні....

Так што музычны-арыстакратычны-кіношны шоў-біз, росквіт якога прыпаў на другую палову 20 стагодзьдзя, - на жаль, зусім ня самае вялікае зло ў сьвеце. Гэта проста нахабнае і яркае адлюстраваньне таго Вялікага Шоў-Бізу, які заплюхнуў наш сьвет досыць даўно - калі людзі адчулі, што ім сумна верыць у Хрыста.

Можна, безумоўна, успрымаць Элвіса, "Бітлз" і Мадону прасьцей. Ну, пяюць і пяюць, грошы атрымліваюць. Але сэнс іх існаваньня, калі ўдумацца, глыбокі і пагражальны. Нас ужо не ўзбуджаюць абразы і малітвы. Ды і "бітлы" хіба што не ўзбуджаюць - малавата ў іх "шоў". А вось Мадона можа і цыцкі паказаць...
















тэкст: maryjka

# REALITY SHOW ПА-БЕЛАРУСКУ

## УКЛЮЧЫЦЕ СЬВІТАНАК

ПАВОДЛЕ СТАРОЙ АНГЕЛЬСКАЙ ЛЕГЕНДЫ, БОЛЬШ ЗА ТЫСЯЧУ ГАДОЎ ТАМУ ЖЫЎ У МЯСТЭЧКУ КОВЭНТРЫ АДНАЙМЕННЫ ГРАФ. І ТАК ЗАКАТАВАЎ ЁН ПАДДАНЫХ НЕПАМЕРНЫМІ ПАДАТКАМІ, ШТО ЯГОНАЯ ЖОНКА – ЛЭДЗІ GODIVA, ДОБРАЙ ДУШЫ ЖАНЧЫНА, ПАЧАЛА ПРАСІЦЬ У МУЖА ЛІТАСЬЦІ ДА ВАСАЛАЎ. ТАДЫ ГРАФ СКАЗАЎ: "ДОБРА, КАХАНАЯ. Я ЗЬНІЖУ ПАДАТКІ, АЛЕ ТОЛЬКІ Ў ТЫМ ВЫПАДКУ, КАЛІ ТЫ АБСАЛЮТНА АГОЛЕНАЯ ПРАЕДЗЕШ ПРАЗ УВЕСЬ ГОРАД НА КАНІ". І GODIVA – ДЗІЎНАЕ СПАЛУЧЭНЬНЕ КАМУНІСТКІ СА СТРЫПТЫЗЁРКАЙ – ЗРАБІЛА ГЭТА. ПАПЯРЭДЖАНЫЯ ЖЫХАРЫ ЗАЧЫНІЛІСЯ Ў ДАМАХ, КАЛІ ЯНА ПАЧАЛА СВАЁ ПАДАРОЖЖА ПА ВУЛІЦАХ, УБРАНАЯ ЯК ЭВА.

Можна меркаваць, што граф Ковэнтры быў аўтарам і рэжысэрам першага ў гісторыі reality show. Няхай, ня ў прыклад сучасным адпаведнікам, шоў прынесла яму страты (падаткі давялося зьнізіць), а адзінага гледача, цікаўнага "падглядальніка Джэка" (peeping Jack), Бог, паводле легенды, пакараў сьлепатою. Шоў-біз - мастацтва зарабляць хлеб на відовішчах - дзіця пазьнейшай цывілізацыі.
Reality-TV як такое ўзьнікла ў 1948 годзе. Першая ластаўка - Candid Camera ("Схаваная камэра") зь яе нязьменным вядучым Аленам Фантам. Праграмы, сюжэты якіх заснаваныя на дакумэнтальных падзеях, стварылі трывалы грунт, і менавіта на ім стаіць цяперашняя індустрыя рэальных шоў. Сусьветная тэлевізія паціху акумулявала практыку здымкаў і трансьляцыі звычайных людзей у незвычайных умовах, каб выбухнуць у 1998 галяндзкім Big Brother. Неўзабаве ўвесь сьвет ахапіў сындром peeping Jack. Цяпер ажыятаж прайшоў, падобных шоў паболела, іх сцэнары сталі больш разнастайнымі. Сёньня RSh's ператварыліся ў рутыну і даюць хоць не такі шалёны, як спачатку, але стабільны прыбытак.

## ТЭОРЫЯ ЖАНРУ

Прычынай папулярнасьці рэальных шоў у мільёнаў тэлегледачоў самых розных краінаў аналітыкі лічаць вуаерызм. У вузкім сэнсе - гэта сэксалягічны панятак, у шырокім - уласьцівае ці ня кожнаму чалавеку жаданьне ведаць, што ў дадзены момант адбываецца за парканам у суседа.
Вытокамі рэальных шоў называюць сацыялягічныя досьледы амэрыканскіх псыхолягаў і сацыёлягаў. Адпраўным пунктам прынята лічыць 1971 год, калі Філіп Зомбарда, прафэсар Стэнфардзкага ўнівэрсытэту (ЗША), зладзіў экспэрымэнт над сваімі студэнтамі. Групу паддосьледных падзялілі на вязьняў ды наглядчыкаў і зьмясьцілі іх у імправізаваную турму. Усё, што адбывалася там, фіксавалі схаваныя камэры. Праз тыдзень экспэрымэнт давялося спыніць: "наглядчыкі" пачалі жорстка зьдзекавацца зь "вязьняў".
Па словах стваральніка Big Brother галяндца Джона дэ Мола, яму і яго калегам стала цікава паназіраць за ўзаемаадносінамі людзей у замкнёнай прасторы.
У словазлучэньні reality show аўдыторыя звычайна есьць першае слова, аўтары праектаў - другое. Пастаўце камэру ў турме ці ў вайсковай часьці (вы будзеце ня першымі: украінцы ў казарме ўжо ставілі), і што цікавае вы там убачыце?
Рэальнасьць як такая нікога ня вабіць. Самае відовішчнае рэальнае шоў заўсёды добра зрэжысаванае, пачынаючы ад сюжэту ды студыі і ажно да падбору ўдзельнікаў. Магчымасьць пабачыць на тэлеэкране непрафэсійных актораў - толькі палова справы. У ангельскім Big Brother гледачы выбралі пераможцу - 28-гадовага будаўніка зь Лівэрпуля, які выйграныя грошы аддаў на апэрацыю цяжка хворай жанчыне. Наўрад ці перамога Робін Гуда была падтасаваная. Гледачы галасуюць сэрцам, але не за самога ўдзельніка, а за той імідж, які ствараюць вакол яго аўтары.












Элемэнты reality show ужо даўно тычацца ня толькі тэлевізійнага шоў-бізу. Вазьміце польскага пісьменьніка Анджэя Стасюка: яго проза разыходзіцца вокамгненна і вялікімі накладамі. Інтэлектуалы і ня вельмі балдзеюць ад падрабязных, амаль занудных апісаньняў краявідаў, птушак, побыту польскіх калгасьнікаў. Крытыкі дзівуюцца, чаму амаль рэалістычныя, ды яшчэ так неахайна напісаныя тэксты маюць шалёны посьпех. Насамрэч усё проста: Стасюк, які жыве зь сям'ёю ў польскай глухамані на пакінутым хутары, прываблівае чытача не так прозай, як рэальнасьцю, нават reality, што стаіць за ёй.
А забавы бін Лядэна і Буша? Відаць, сёньня рэальнае шоў ёсьць фарматам для чаго заўгодна.

## КЛЯСЫКА ЖАНРУ

**Big Brother/"Вялікі брат"**, першы этэр - у 1999 годзе ў Нідэрляндах, на прыватным тэлеканале Veronica.
12 удзельнікаў цягам 100 дзён жывуць у адасобленым ад сьвету доме ў горадзе Алмэр, напханым відэакамэрамі. Умовы ў доме спартанскія. Права памыцца ў гарачай вадзе ці пакарыстацца электрычнасьцю нечага каштуе. Ежу трэба гатаваць на вогнішчы, хлеб і сьмятану рабіць самім. Задача ўдзельнікаў - спадабацца тэлегледачам і пражыць у доме да канца тэрміну. Той, хто здолеў пратрымацца, атрымлівае грошы.
Ва ўсіх двух тузінах краінаў сьвету, дзе былі запушчаныя свае Big Brother, шоў праходзяць прыкладна аднолькава.
Цягам n-най колькасьці дзён удзельнікі дохнуць ад нуды, валяючыся на канапах, выконваюць няхітрыя заданьні Бігбразэра (сугестыўны голас аднекуль са столі), лаюцца міжсобку, гутараць з псыхолягам. Прыкметна ажываюць, калі надыходзіць час каго-небудзь выкідаць. Сэксам займаюцца, каб павысіць рэйтынг і каб зьнізіць стрэс, але няшмат, бо праект забароняць, як гэта адбылося ў Грэцыі. (Для "гэтага" звычайна заводзяць асобныя шоў - "дазволена ўсё, апрача садызму".)
Лёс удзельнікаў з розных краінаў падобны. Да звычайнага жыцьця вяртаецца меншасьць. Некаторыя (асабліва першыя "выкідкі") заканчваюць жыцьцё самагубствам; палова, у незалежнасьці ад музычных здольнасьцяў, робіць кар'еру поп-зоркі, выпускае залатыя і плятынавыя дыскі. У асноўным жа ахвяры разбрыдаюцца па дробных тэле- і радыёстудыях, здымаюцца ў рэкляме, жывуць зь інтэрвію таблёідам. Дзялкі шоў-бізу, якія падбіраюць іх, значна эканомяць на раскрутцы.

**Survivor/"Той, хто выжыў"**, запушчана ў 1997 годзе ў Швэцыі (арыгінальная назва Expedition Robinson).
Натоўп незнаёмых міжсобку гульцоў высаджваецца на ненаселенай трапічнай высьпе з экіпіроўкай і тымі прыпасамі, якія пасьпяваюць за дзьве хвіліны зьнесьці з карабля, і застаецца сам-насам зь дзікай прыродай і сотняй-другой тэлекамэраў.
Удзельнікі дзеляцца на дзьве каманды, выконваюць розныя заданьні на кемлівасьць ды сілу і выжываюць, самастойна здабываючы ежу. Паступова, адзін за адным пакідаюць высьпу. Апошні - "той, хто выжыў" - забірае касу.
Да нас Survivor дайшоў у трошкі згладжаным выглядзе. Ня ведаю: навошта вывозіць "апошніх герояў" на край сьвету, калі пад бокам дзікія стэпы Забайкальля і зялёнае мора тайгі?..

## ГЛЯДЗІЦЕ НА ПЕРШЫМ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ?

Думка пра магчымасьць зладзіць беларускае рэальнае шоў падаецца настолькі нерэальнай, што, высоўваючы свае вар'яцкія праекты, я пачуваюся абсалютна вольнай і нічым не магу абмежаваць


















хворую фантазію. Фінансы? Праблема амаль неперараадольная, ды гэта і не мая турбота: знайсьці грошы ў шоў-бізе - справа самая лёгкая, а вось крэатыву звычайна бракуе.

### Reality Country Show
### частка I

*тып:* extreme
*заходні аналяг:* Survivor
*працоўная назва:* "Палескія рабінзоны"
© maryjka & Янка Маўр
*ідэя:* яшчэ Янка Маўр - найлепшы спэцыяліст па экзатычных краінах у беларускай літаратуры - прасёк, што пасьля Дэфо тэму рабінзанады смачней есьці з нацыянальнай поліўкай.
Ніякіх тропікаў: месца дзеяньня - кавалак сушы, абкружаны балотам, дзе-небудзь на Століншчыне. Час дзеяньня - верасень-кастрычнік, каб спачатку сьціплае, але гожае беларускае бабіна лета, а напрыканцы - усе вабноты позьняе восені. Калі ўдзельнікам пашанцуе, мароз ударыць раней, чым скончацца здымкі, балота падмерзьне, і да вялікай зямлі дабяруцца ўсе.
Дарэчы, пра ўдзельнікаў. Палігонам па дасьледаваньні статкавых інстынктаў няхай застаецца Ціхі акіян. Нашых герояў будзе няшмат, 7 +/- 2 чалавекі. Але што гэта будуць за хлопцы!!! Ну і адна-дзьве дзяўчыны: якія і зубра "на скаку", і вужаку сырцом.
Мэта гульцоў: а) пакінуць выспу, пераадолеўшы балота, б) зрабіць гэта ў жывым выглядзе. Мэта аўтараў: прыкласьці ўсе намаганьні, каб сыход падаваўся немагчымым.
Я прапанавала б абмежавацца двума прадметамі: нажом і каробкай запалак. Ну, белую хустку - каб той, хто адчуе, што трываць больш ня можа, змог падаць сыгнал гелікоптэру. Як выключэньне - дазволіць акуляры ўдзельніку са зрокам -4,5 адзінкі. Але толькі для таго, каб хто-небудзь кокнуў іх яму напачатку апошняга тыдня. А вось цыгарэтаў курцам не дамо. Цікава пагладзець, як яны будуць паліць кару дрэваў і іншае сьмецьце. Пакуль запалкі ня скончацца.
Сама эстэтыка балота падказвае, што тут ня месца спаборніцтвам, якія нагадваюць дзіцячыя эстафэты. Зносіны з арганізатарамі могуць адбывацца ў рэжыме дзіцячай гульні "12 цыдулак". Знайшоў паперчыну з заданьнем - выконвай. Выканаў - атрымаў наступную і заплечнік з хлебам, салам і цыбуляй. Ня выканаў - смаж жабак.
Галоўная інтрыга палягае ў наступным: героям бесьперастанку будзе закладвацца ўстаноўка "адзін супраць усіх і ўсе супраць аднаго". У той жа час мы падбаем пра тое, каб любое памкненьне перамагчы самому заканчвалася брутальна.
Яны выйдуць разам - альбо ня выйдзе ніхто.

### Reality Country Show
### частка II

*тып:* authentic
*працоўная назва:* "Людзі на балоце"
© maryjka & Іван Мележ
*заходні аналяг:* у Вялікабрытаніі папулярнае шоў, у якім героі жывуць у вікторыянскім маёнтку, цалкам занураныя ў быт арыстакратыі XIX ст. Беларусам прапануем на час вярнуцца туды, адкуль прыйшлі.
*ідэя:* усё амаль банальнае. Тое ж балота і яго ваколіцы ператвараюць у скансан (музэй пад адкрытым небам) на дзьве вёсачкі, куды з надыходам вясны засяляюць два досыць вялікія натоўпы ўдзельнікаў. Ад Мележа пакідаем соцспаборніцтва: абарыгены спрабуюць высушыць сена па калена ў вадзе і не пахезаць даручаныя буракі і жыта. Штотыдзень - куды ж бяз гэтага! - на агульным сходзе ў кожнай вёсцы рэпрэсуецца нехта з удзельнікаў.
Аднаўляецца побыт беларускай вёскі пачатку XX ст. У андараках і вышыванках толькі на першы пагляд няма нічога ўзбуджальнага (NB! апэратарам у адрынах і гумнах усталяваць камэры для начных здымкаў). Жанчынам давядзецца ткаць, мужчынам - касіць. Некалькі разоў на тыдзень заняткі па традыцыйнай культуры і практычныя курсы палескай гаворкі для пачаткоўцаў.
У гэты час каля тэлевізараў тэмпы продажу перавыданьняў "Палескай кронікі" б'юць "Уладара пярсьцёнкаў" і "Гары Потэра" разам узятых. Шляхам тэлефоннага і інтэрнэт-галасаваньняў вырашаецца, каго гледачы бачаць прэтэндэнтамі на галоўныя ролі ў новай экранізацыі шэдэўра Мележа. Балота перастае быць сынонімам запусьценьня і адсталасьці - да яго вяртаецца былая слава стыхіі, што гартуе сапраўдных людзей.

### Religious Reality Show

*працоўная назва:* "Вялікі пост"
© maryjka
*заходнія аналягі:* "Каханьне зь першага погляду" + "У пошуках праўды". Сэнс першага ўсім добра вядомы. Аўтарства другога належыць амэрыканскай баптысцкай царкве. 12 хлопчыкаў вандруюць па ЗША, ведучы апостальскі лад жыцьця.
У Беларусі, дзе праваслаўе абвешчанае дамінуючай рэлігіяй, грэх не пакарыстацца багатай фактурай.
*Ідэя* грунтуецца на праблемах выпускнікоў праваслаўных сэмінарыяў з пошукам жонкі.
Час дзеяньня - 40 дзён перад Вялікаднём, вялікі пост. Шэсьць прыстойных хлопцаў, што рыхтуюць сябе да служэньня пастве, і шэсьць "харошых дзевачак". У адрозьненьне ад астатніх шоў, хлопцы і дзяўчаты маюць доступ да тэлевізара, інтэрнэту, а таксама да лядоўні, набітай смачнай, але скаромнай ежай. Заданьні тычацца рэлігійнай тэматыкі і называюцца "паслушэньнямі". У праекце сустрэчы з равесьнікамі, дыспуты пра Бога і сэнс жыцьця.
Кожны тыдзень удзельнікі выбіраюць:
а) асобу супрацьлеглага полу, якой найбольш сымпатызуюць;
б) таго, каго б не хацелі болей бачыць побач.
Беручы да ўвагі гэтую інфармацыю, глядацкі інтэрактыў выбірае "выкідка". І так адбываецца, пакуль удзельнікі не застануцца ўдваіх. У ідэале пара пераможцаў бярэ шлюб на вачах у замілаваных гледачоў.
Незалежна ад рэлігійнасьці і веравызнаньня, беларускі глядач неадрыўна сочыць за падзеямі. Спакусы сьвецкага жыцьця і вечныя каштоўнасьці - што пераможа? Форумы tut.by: "Кацярына разгавелася!" або "Ці прызнаецца Фёдар Марылі ў каханьні на Вербніцу?"
Галоўны прыз навасьпечаным бацюшку і матухне - што-небудзь сымбалічнае: утульны прыход з сымпатычнай цэркаўкай, сьвячны заводзік...

### Criminal Reality Show

*працоўная назва:* "Дзесяць мурынчыкаў"
© maryjka & Агата Крысьці
*Ідэя* запазычаная як сама бабуля дэтэктыву.
Група людзей, адрэзаная ад усяго сьвету абставінамі - і раптам на тэрасе знаходзяць труп. Пад падазрэньнем усе.
Нашыя галубкі трапяць у рэжым "яны ня ведаюць, што іх здымаюць". Дзясятак-другі маладых і ня вельмі людзей атрымлівае халяўны шанец бясплатна адпачыць на якой-небудзь маленькай нарачанскай ці браслаўскай турбазе. У праекце - невялічкая party з "зоркамі", адну зь якіх там і знаходзяць. Хто забіў? Цікава пабачыць, які адказ на гэтае пытаньне знойдуць аматары бясплатнага сыру.
Праект кароткатэрміновы - не даўжэй за дзесяць дзён. Калі скончыцца ўся гарэлка, глядзець будзе нецікава.

### Truman's show

*У гэтым шоў няма фальшу - проста ўсё пад кантролем.*
Фільм "Шоў Трумана"(дзе Джым Кэры граў хлопца, які ад моманту зачатку гадоў да трыццаці быў галоўным героем шоў - адзіным рэальным чалавекам сярод цэлага гораду актораў і статыстаў) сам па сабе ніякі. Аднак яго ідэя жыцьця як няспыннага reality show вельмі працаздольная.
Гэта рэальна: трэці месяц праспэкт Скарыны абсталяваны відэакамэрамі. Хаця што тут такога: вось і мы, нарэшце, Эўропа, і ў нас ёсьць свае real-TV, хіба што гледачоў у гэтай перадачы значна менш, чым удзельнікаў. І ніякага фальшу, блін.








# “У РОК-Н-РОЛУ НОГІ Ў БРУДЗЕ, А ГАЛАВА – ЗА АБЛОКАМІ”

тэкст: Слава Бандарэнка
ідэя афармленьня: Эд Віляні NY

**ГЭТА НЯ Я ПРЫДУМАЎ, А БОНА. АЛЕ ДОБРЫ ЗАГАЛОВАК ПАД ТЭМУ, ЯК БЫ ГЭТА МЯККА СКАЗАЦЬ, ДАЛІКАТНУЮ. ПРА УЗАЕМААДНОСІНЫ РЭЛІГІІ І ПОП/РОК-МУЗЫКІ НАПІСАНА УЖО ШМАТ, У ТЫМ ЛІКУ І ПАВАЖНЫХ ТОЎСТЫХ КНІЖАК. АЛЕ АЎТАРАЎ, ЯКІЯ ГАТОВЫЯ РАЗЬБІРАЦЦА Ў ПРАБЛЕМЕ НЕПЕРАДУЗЯТА І ЗЬ ВЕДАНЬНЕМ СПРАВЫ, – АДЗІНКІ. ЯК ПРАВІЛА, ТАКІЯ КНІГІ ПІШУЦЦА ЦІ КНЯЗЯМІ ЦАРКВЫ, ШТО РОБЯЦЬ ДЗЕСЯЦЬ ПАМЫЛАК У СЛОВАЗЛУЧЭНЬНІ BLACK SABBATH, ЦІ РОК-Н-РОЛЬНЫМІ РАСПУСТАМІ, ЯКІМ САМ ЧОРТ НЯ БРАТ... МЫ, ЯК ВЫ РАЗУМЕЕЦЕ, ЛЮДЗІ НЕ ТАКІЯ, А ТАМУ МАЕМ ПРАВА НА ПЭЎНЫЯ ВЫСНОВЫ.**

1950-я. На першы погляд, цяжка знайсьці штокольвек агульнае ў вар'яцкіх рок-рытмах, якія заваявалі плянэту, і хрысьціянскіх (і ня толькі) запаветах. А між іншым практычна ЎСЕ айцы рок-н-ролу былі набожнымі людзьмі. Ясна, гэта ім не перашкаджала грашыць на ўсю катушку. Затое якія пасьля былі пакаяньні!.. Па прыклад далёка хадзіць ня трэба: Элвіс Прэсьлі запісаў два выдатныя альбомы госпэлаў, адзін зь якіх у 1967 г. атрымаў "Грэмі". Літл Рычард на ўсю моц пракляў рок (а потым неаднойчы адракаўся ад гэтага праклёну). Бог рок-н-рольнага фартэпіяна Джэры Лі Льюіс адчуваў у сабе бясконцую барацьбу Бога ды Д'ябла і страшэнна ад гэтага пакутаваў...
Усё гэта цалкам вытлумачальна: рокеры ў 1950-х усе як адзін былі выхадцамі зь "біблейскага пасу" ЗША, традыцыйна рэлігійных паўднёвых штатаў. Усе яны яшчэ ў дзяцінстве хадзілі ў баптысцкія ці адвэнтысцкія цэрквы і слухалі сьпевы мурынскіх госпэл-ансамбляў. І што тады казаць пра саміх нэгрыцянскіх легендаў: і Джон Лі Хукер, і Рэй Чарльз, і Бадзі Гай аддавалі належнае госпэлам - то бок пакладзеным на музыку псальмам.
Вельмі характэрны для эпохі прыклад: калі ў 1956 годзе ў адной студыі сышліся дзеля імправізацыі Элвіс, Джэры Лі, Карл Пэркінз і Джоні Кэш - "Квартэт на мільён даляраў", - яны зацягнулі не рок-н-рольчык, а старадаўні госпэл "His Hand In Mine"...

1960-я. Разьвясёлы пачатак эпохі быў зусім атэістычным. Дакладней, ня тое каб атэістычным - проста сьвінгуючаму пакаленьню было не да таго. Рэлігія існавала ў сьвеце бацькоў, а хлопчыкі-дзяўчынкі раўлі на канцэртах The Beatles і вучыліся карыстацца супрацьзачаткавымі таблеткамі.
Усё зьмянілася ў 1967 г. Пол Макартні заявіў літаральна наступнае: "Пасьля ЛСД я зразумеў, што Бог існуе", а вакалістка Jefferson Airplane Грэйс Сьлік падтакнула: "Хрыстос казаў, што вернецца, і Ён вярнуўся - усе радыёхвалі сьпяваюць пра каханьне"...
Духоўнасьць, якая раптоўна рванулася на паверхню, набыла самыя дзіўныя формы: ад традыцыйнага хрысьціянства да індуізму, вайшнавізму, сатанізму і ЛСД-рэлігіі. Усё зьмяшалася ў вялікую пярэстую кучу, і не адзін дах плаўна паехаў пад уплывам назіраньня за ёй. У моду ўвайшлі "завернутыя" тэксты і містыка. І найбольш яркім увасабленьнем эпохі сталі хіба што The Moody Blues, якіх называюць "Сыкстынскай капэлай року".

1970-я. Ацьверажэньне пасьля духоўнага піру было цяжкім і праяўлялася па-рознаму. Напрыклад, Кэт Стывэнс, аўтар "Wild Wild World", расчараваўся ва ўсім эўрапейскім, прыняў іслам і стаў называцца Юзуфам Ісламам. Піт Таўншэнд з The Who публічна пракляў усіх сваіх шматлікіх гуру, тое самае зрабіў Джон Ленан у песьні "God". "Мроі скончыліся. Гэта рэальнасьць", - словы Джона сталі лейтматывам дзесяцігодзьдзя, якое зьбегла ад духоўнасьці ці то да вар'яцкай радасьці дыскатэкаў, ці то да нігілізму панкаў.
Нейкага кшталту рэакцыяй на гэта стала зьяўленьне першага пакаленьня гуртоў хрысьціянскага року - The 77's і Prizm. На жаль, у музычным пляне яны былі глыбока другаснымі. Атрымлівалася амаль па Яўгену Шварцу: "Зло сыйшло, дабро прыйшло, чык-чырык, чырык-ура".
Кур'ёзы дзесяцігодзьдзя: група Angel, якая супрацьстаяла дэманічнаму грыму Kiss, і тры хрысьціянскія альбомы Боба Дылана (1979-81) - яны лічацца самымі горшымі альбомамі кляcыка. Тым ня менш, яны дабраліся да брытанскага і штатаўскага TOP-3.

1980-я і 1990-я. Росквіт хрысьціянскага року ў ЗША: асобны чарт хрысьціянскай музыкі ў Billboard, хрысьціянскія Вудстокі, зьяўленьне ўайт-мэталу і да т.п. Зараз хрысьціянская музыка - велічэзны пласт у сусьветным шоў-бізнэсе. Па стылях - усё што заўгодна: ад дзікага хардкору да традыцыйных балядаў. Тэкст - як і раней: варыяцыі на тэмы Сьвятога Пісаньня. Менавіта таму, магчыма, хрысьціянская музыка цікавіць хіба што толькі саміх хрысьціянскіх музыкаў.
Маладая ірляндзкая група U2 спрабуе стварыць новую рок-эстэтыку. Сэкс, наркату і рок-н-рол хлопцы адпраўляюць на сьметнік і абвяшчаюць Біблію сучасным, актуальным і маладзевым чытвом. Усхваляваныя тэксты раньняга Бона прымусілі не аднаго бэйбуса зьвярнуць позірк на неба.
Магутнае права голасу атрымлівае іслам - у творчасьці хіп-хопэраў.

...Скажам шчыра: у Беларусі такога яшчэ доўга не пабачаць. Хаця б таму, што рэлігійныя пастуляты не ўбіваюцца нам у галаву з раньняга дзяцінства ці са школьнай парты. Хаця б таму, што зараз вельмі прыземлены час. Хаця б таму, што поп-музыка мусіць забаўляць нас, а не грузіць рэлігійнымі праблемамі. Можна ўявіць сабе "Ляпісаў", якія выпусьцілі альбом з тэкстамі зь Бібліі.
Калі я распавёў гэтыя думкі свайму сябру, ён адказаў: "Ты нічога не зразумеў. На Захадзе зусім іншы падыход да рэлігіі. Там гэта звычайная справа, як мыцьцё рук перад сьняданкам. А ў нас рэлігія захавала сваю сакральнасьць. Таму ў нас і немагчымыя групы кшталту раньніх U2. То бок у прынцыпе магчымыя, але ў нас на іх паглядзяць як на ідыётаў. Бо ў нас поп-музыка - для клюбаў, а малітва - для цэркваў. І так будзе заўжды". Цалкам магчыма.



# Шоў-біз

■ Маша Русіновіч, Андрэас Копыс

## ШОЎ-БІЗНЭС × РЭЛІГІЯ = ШОЎ-БІЗ

Умовімся адразу, што вынесеная ў падзагаловак формула на выхадзе мае шоў-біз. Пагадзіцеся, што калі эканоміка памнажаецца на веру ў існаваньне звышнатуральных сілаў, то ў выніку атрымліваецца зброя масавага зьнішчэньня. Вазьміце, напрыклад, практыку стварэньня сучасных культаў: пасьпяховае абагаўленьне простага чалавека ў сусьветным маштабе за ўсю гісторыю чалавецтва адбывалася фактычна два разы - пасьля 33 году нашай эры і цягам дваццатага стагодзьдзя. Але такое ўражаньне, што прадусарынг нашай эпохі нашмат больш дзейсны за царкоўна-схалястычны. "Не стварыў сабе куміра?"

Шоў-біз вельмі займальны: стварае герояў, маніпулюе розумамі і калектыўным несьвядомым. І бадай самае цікавае - існуе быццам такое астральнае цела: ён ёсьць, ды ніхто яго ня бачыць.

Але калі кіравацца нашай формулай, то засады пачынаюцца ўжо зь першага складніку - шоў-бізнэсу. "Шоў-бізнэсу ў сьвеце нідзе няма, апрача "саўка", - кажа генэральны прадусар Першага музычнага канала **Віталь Чыжоў**. - І то: тут часткова прадаецца ідэалёгія, яна сапраўды ёсьць прадметам гандлю. Ускосна, вядома ж: наагул прадаецца носьбіт. Але нават калі за скачваньне MP3 трэба плаціць грошы, то і носьбіт вялікай ролі ня грае. Прадаецца ідэалёгія".

"Шоў-бізнэс - нават не індустрыя, - працягвае Чыжоў, - гэта нейкі панятак, які аб'ядноўвае ў сабе аспэкт прафэсійнага жыцьця ў гуказапісе, у музычным бізнэсе, у канцэртнай вытворчасьці, у цырку - і гэтак далей. А насамрэч гэта ўсё галіны вытворчасьці, якая і называецца незразумела".

Вера ў шоў-бізнэс у Беларусі - як вера ў Бога: яна можа быць натуралістычнай, суб'ектыўна-ідэалістычнай, канцэптуальнай, скептычнай у рэшце рэшт.



Але што ў нас вераць - адназначна. І тую веру, але ўжо ў Бога (багоў, калі хочаце) часам заангажоўваюць у сваёй творчасьці.

**Алесь Таболіч**, лідэр менскай каманды "Зьніч", вядомы масам у першую чаргу сваім векапомным сьцьвярджэньнем "Паганец я", якое лягло ў аснову аднайменнага гіта. Таболіч, гэткі сын Ярылы, клясычны паганец менскага асфальту, ахвярапрынашэньняў ня робіць (прынамсі, публічна), сакральных капішчаў не раскладае, адно што час ад часу распавядае пра паганства ў самвыдатаўскіх часопісах. То бок фактычна прэтэндуе на ролю ідэоляга.



Цікава, што Алесь прызнае наяўнасьць шоў-бізнэсу, але называе яго "андэрграўндным", і гэта ў прынцыпе падкрэсьлівае калі не забароненасьць, то пэўную закамуфляжаванасьць ад шырокай, масавай публікі. Тым часам апошняя - аб'ект яго ідэалягічнай апрацоўкі: "Я ніколі не адмаўляў, што я - паганец. І я буду несьці сваю веру праз масы". Тое, што масы гэтак званай брутальнай моладзі з захапленьнем успрымаюць "Зьнічоў", а разам зь імі і само паганства, яшчэ раз сьведчыць пра наступнае: нейкая да канца прадуманая і граматна пададзеная ідэя знаходзіць шляхі да "сьляпых і глухіх".

У каманды "Новый Иерусалим" масавая публіка бадай што падобная да "зьнічоўскай" - рокеры і прыхільнікі ўсялякага роду альтэрнатыўнай музыкі, хіба толькі больш спакойныя і разборлівыя. Музычныя крытыкі называюць каманду адной з самых цікавых у пляне кампазыцыі і аранжыровак, але паглядаюць на "ерусалімцаў" скоса. У вузкіх колах даўно цыркулюе ідэя, што "Новый Иерусалим" - дзіця шоў-бізу, але зусім не Хрыста, як вынікае зь іх песень: "Амэрыкосы башляюць і музыку заказваюць". На такія праявы таго ж шоў-бізу (брудны PR - вынік чорнай зайздрасьці) музыкі глядзяць досыць спакойна і з годнасьцю робяць тое, што ім даспадобы - нясуць у масы хрысьціянства.

**Яўген Калмыкоў**, прадусар "Ляписа Трубецкого", у гэтым сэнсе няўмольны: "Тое, што яны робяць, нашмат больш цікавае за такую творчасьць, калі чалавек наагул нічога не нясе. Калі ўключыць той жа M1, то адразу можна зразумець, што хочуць паказаць "пяючыя галовы" - і рукі, і ногі, і задніцы. Мне маіх дзяцей шкада - яны на гэта лёгка падсаджваюцца".

А наконт шоў-бізу і рэлігіі...

## ...І РЭЛІГІЯ

Рэлігія і шоў-біз маюць адну выдатную ўласьцівасьць - яны ўзаемападмяняюцца: шоў-біз замяняе рэлігію, а рэлігія ўплывае на шоў-біз. Аб'екты пакланеньня ператвараюцца ў суб'екты, сыстэма каштоўнасьцяў падымаецца ў паветра дагары нагамі, рэлігія ляціць і зьлятае, мэтафарызуецца ў рэкляме, паблісіці, лайфстайле. У Чэ, у Скарыне-Коласе-Купале - чалавеку прадмет пакланеньня неабходны. Зразумець, дзе чаго болей - культу ў шоў ці шоў у кульце - зараз амаль немагчыма, але сувязь гэтая ёсьць. Як мінімум на ўзроўні неўсьвядомленага. Таму і пакапацца ў абрыўках роздумаў і рэфлексіяў на зададзеную тэму досыць цікава. Асабліва калі ў якасьці homo sapiens'аў (нагадаем, літаральна - чалавек разумны) выступаюць прадусары, музыкі, прамоўтэры, якія дакладна прэтэндуюць на валадараньне розумамі масаў. То бок паствы.

"Па сутнасьці, кожная песьня - гэта нейкае казаньне, маленькае, але казаньне", - упэўнены Аляксандар Патліс, музыка "Нового Иерусалима".

## БАЛВАНАХВАЛЬСТВА

Пасьля шматслоўных размоваў, сутнасьць якіх мы паспрабавалі выкласьці вышэй, неяк само сабой узьнікае пытаньне, што такое "Беларусь" і "беларускае" і чаму, у рэшце рэшт, суайчыньнікі масава не "скупляюць сваё", у тым ліку шоў.

**Алекс Хацкевіч**, хросны тата ўсенародных Сашы і Сірожы, мяркуе, што праблема ў саміх беларусах: у асноўным большасьць успрымае сваю краіну як спальны раён - "тут ядуць-п'юць і быццам бы так ціхутка размнажаюцца". Ціхутка і, паводле назіраньняў, неяк затармажана (адставаньне на колькі год - у нашых генах), нават цягуча.

"А гэта насамрэч край балотаў. І такая фішка дагэтуль на нас адбіваецца. Можа быць, гэта і ёсьць наш плюс, - рэфлексуе сп. Калмыкоў. - Але калі беларусы ўрубяцца ў што-небудзь, асабліва ў іншых краінах, то могуць ці ярасьць праявіць, ці наагул нейкі характар. І тады ад іх можна пачуць "так" ці "не" замест спрадвечнага "мабыць".

Што тычыцца самога працэсу балванахвальства, то ў Беларусі - прыцемкі: культавы герой ніяк не матэрыялізуецца ў галовах. Рэдкія bingo магчымыя, але самой сытуацыі, у якой бы фармаваліся культы, няма, і яе, па словах Хацкевіча, "трэба ствараць". А пакуль - застываньне перад акцыяй.

Зрэшты, рэжым чаканьня - гэта таксама элемэнт шоў. Эпатажу ў беларускім шоў-бізе амаль няма, тут не прынята выступаць экспрэсіўна, тут наагул гэта не прынята. У беларускага шоў-бізу запаволеная хуткасьць як асаблівасьць творчасьці, як статычны ход, як эмоцыя - н а ш с т а н н а ц я г н у т а с ь ц і.

"Скарына. Мулявін. Кастусь Каліноўскі. Янка Купала. Лявон Вольскі. Ну, сучасныя і не сучасныя, але гэта беларускія ідалы", - кажа Віталь Чыжоў, адказны за палітыку на першай і адзінай пакуль беларускай фабрыцы мрояў.

Яўген Калмыкоў: "У Беларусі калі ты не равеш, то цябе і не пачуюць. У нас няма такога, каб бегалі, пыталіся, шукалі. Такіх людзей лічаць хутчэй вар'ятамі".

## "МЫ ЎСЕ ПІНГВІНЫ. КОЖНЫ З НАС. БО ЎСЕ "ВЯДУЦЦА"

Гэтую сэнтэнцыю на М1 некаторыя супрацоўнікі ўспрымаюць з крыўдай ("і гэта кажа прадусар?.."), некаторыя - цалкам адэкватна. Так ці інакш, гледачам канала прапануецца больш зразумелае "музыка ўнутры". Ці толькі яна?

Гандаль як рухавік прагрэсу тычыцца ў тым ліку і шоў-біз-ідэалёгіяў, філязофіяў, калі хочаце. Але паглядзіце: арыгінальнае замяняецца штучным, мімікрыяй пад творчасьць. Модна быць ненатуральна арыгінальным! "Краски" распрацоўваюцца і пралічваюцца да апошняй эмоцыі, да апошняга архетыпу - і зашыбаюць шалёныя грошы/папулярнасьць, нават болей - усенародную любоў. За што іх і клянуць: "Пяючыя тэлепузікі, мля!"

"А што тут такога, калі выкарыстоўваюцца веды, назапашаныя чалавецтвам? - дзівуецца Чыжоў. - Паспрабуй уявіць, што яшчэ можа выкарыстоўвацца зараз апрача апэляваньня да падсьвядомага? Чалавецтва ўсяго сто год жыве па-за рэлігіяй! То бок цягам стагодзьдзя стала нармальным адмаўляцца ад рэлігіі. А да таго наагул быў жорсткі канон".

Тое, што нейкі канон пачаў адраджацца, відавочна. Яўген Калмыкоў на сабе адчувае, што часы зноў мяняюцца - прыхаваная рэлігія ўваходзіць у фавор.

"Тое, што паганства нібыта вяртаецца назад, - абсалютна дакладна. Ну вось узяць, напрыклад, інстытут сям'і: у розных гэтых ток-шоў паважаныя людзі кажуць, што палігамія - гэта нармальна.

Ідэолягі... Некаму спадабаўся вакаліст Limp Bizkit - і давай яму пакланяцца. Зразумела, што ў шоў-бізе шмат вар'яцтва..."

Зараз чалавеку і сказаць цяжка, што прыдумаў ён, а што прыдумалі за яго іншыя: мроі, пачуцьці, станы, нават зьмена сьвядомасьці прадаюцца і купляюцца. Вы думаеце, што вы думаеце, што вы чытаеце і што вы знаходзіце. Насамрэч вы "вядзецеся".

"Мы - прадукты шоў-бізу. Прычым даўно. І ўсе мы прапрацоўваемся. Напачатку гэта была прэрагатыва толькі рэлігіі. Зараз гэта прэрагатыва ўсіх, хто мае магчымасьць адкрываць рот і крычаць у рупар".





# ПРАВАКАТАРЫ І ПРАПАГАНДЫСТЫ

Андрэй Гнёт



## КАРАЦЕЙ, ШОЎ-НЯГОДНІКІ

ПУБЛІЧНЫЯ ПРАФЭСІІ ПЕРАТВАРАЮЦЬ REALITY SHOW ЛІТАРАЛЬНА Ў REAL LIFE. ЛЮДЗІ, ЯКІХ МЫ ВЕДАЕМ У ТВАР, БЕССАРОМНА ВЫСТАЎЛЯЮЦЬ НА АГЛЯД НЯ ТОЛЬКІ ЎЛАСНЫ АЗАДАК, АЛЕ І ЎЛАСНУЮ ЖЫЦЬЦЁВУЮ ПАЗЫЦЫЮ. І ПРЫ ГЭТЫМ ПРЫМУШАЮЦЬ ШЧЫРА ВЕРЫЦЬ ІМ. ЗРЭШТЫ, ТЫЯ, ХТО ЗРАБІЎ САБЕ КАР'ЕРУ НА ГУЧНЫХ ПАВОДЗІНАХ І НЕАДНАЗНАЧНЫХ АЦЭНКАХ, СВАЮ СПРАВУ ВЕДАЮЦЬ. СЬВЕТАМ КІРУЮЦЬ ГРОШЫ, НАМІ - ГРОШЫКІ, А СУТНАСЬЦЬ АДНОЛЬКАВАЯ. НА НАС З ВАМІ, СПАДАРСТВА, ЗАРАБЛЯЮЦЬ - ГЭТА ВЫШЭЙШАЯ МЭТА, І ГЭТА НАРМАЛЬНА. ПРАБЛЕМА Ў ІНШЫМ: Я САМ З ЗАДАВАЛЬНЕНЬНЕМ ВЫКЛАДУ АПОШНЯЕ ЭЎРА ЗА ЧАРГОВУЮ ЛАПШУ І АБАВЯЗКОВА ПАВЕШУ ЯЕ НА ЎЛАСНЫЯ ВУШЫ. АЛЕ! Я МУШУ ГЭТАГА ЗАХАЦЕЦЬ, А ТАМУ ЗАДАЧА ШОЎ-ПРАПАГАНДЫ - АБУДЗІЦЬ НЯЎЁМНАЕ ЖАДАНЬНЕ. ГЭТА РАЗУМНЫ КАМПРАМІС: ХАЧУ ВЕРЫЦЬ, ШТО МНЕ (ПРА)ДАЮЦЬ ВЕРУ - І ЎСЕ ШЧАСЬЛІВЫЯ...

БЛІЖЭЙ ДА "ЦЕЛА". З УЛІКАМ НАШАЙ НЕСТАНДАРТНАЙ СЫТУАЦЫІ МЫ МАЕМ ТАКІ Ж НЕСТАНДАРТНЫ ШОЎ-БІЗ І ТАКІХ ЖА НЕСТАНДАРТНЫХ ПЭРСОНАЎ. І ГЭТА РАСКОШНА! ТАКОЙ КОЛЬКАСЬЦІ САМАДЗЕЙНЫХ І САМАДАСТАТКОВЫХ МЭГА-ЗОРАК НЯ ЗНОЙДЗЕШ НАВАТ У ПАЛАТАХ ПРЫВАТНЫХ ВАР'ЯТНЯЎ. ВЯДЗЕЦЦА ПРА ПЭРСОНЫ, ЯКІЯ ЗЬЛЯПІЛІ САБЕ САМІ. З ТАГО, ШТО БЫЛО ПАД РУКОЙ.





# "Кепскі танцор – добры палюбоўнік"

Эдвард Тарлецкі


IREX/ProMEDIA

"Мальчыш-плахіш" і лепшая айчынная trash-дзіва ў свой час шакаваў публіку сваімі сэкс-шчырасьцямі. Кажуць, зьезьдзіў некалі ў Амэрыку, там яго і папсавалі. Незарэгістраваная арганізацыя "Беларуская Ліга Лямбда" – ягоных рук справа. Спроба стаць у вачах грамадзкасьці нацыянальным абаронцам нетрадыцыйнага ладу жыцьця падмацаваная бурнай грамадзкай (Gay Pride) і выдавецкай (часопіс Forum Lambda + інтэрнэт-прапаганда) дзейнасьцю.

Губляючы на Панікоўцы прытомнасьць ад кулакоў гамафобных адмарозкаў, Тарлецкі стаў першым беларусам, які навучыўся рабіць грошы на ўласнай арыентацыі.

Выбрыкі, скіраваныя на прыцягненьне ўвагі навакольля, для Эдзіка гэткія ж натуральныя, як ранішні туалет; зброя супраць нядобразычліўцаў – плоцкае каханьне (выдатнае вынаходніцтва!). Так, мы сапраўды сачылі за мыльнай опэрай "Я кахаю цябе, Паша!" Нагадаю, што лідэр незарэгістраванага "Маладога Фронту" Павал Севярынец наўмысна запісаўся ў шэрагі тых, хто ня любіць Тарлецкага, а пасьля і сам быў ня рады.

Асноўнае дзейства разгарнулася на старонках друкаваных СМІ. Таблёіды стракацелі: "Сэнсацыйнае прызнаньне Эдварда Тарлецкага!!!" Севярынец сарамліва аджартоўваўся. Вось так яно і выходзіць: адыёзныя паводзіны нашмат больш моцныя за мянтоўскія дубінкі. Зрэшты, калі дайшло да разьвязкі, абодва зьдзьмуліся. Журналістка газэты "Свободные новости", якая рабіла інтэрвію з Эдзікам, так і не дачакалася ні запушчанага торта, ні мінэту...

Культурны стрыжань, які навязваецца Тарлецкім, усё ж такі крыху вузлаваты. Правіла пісьменьніка: хочаш прадаць кнігу, але ня маеш пра што пісаць – вылайся матам і дадай голых баб. Правіла www: чым больш порна, тым больш наведнікаў. Ці сустракалі вы, напрыклад, на жаночых інфармацыйна-забаўляльных сайтах гэтак жа шмат чэлесаў і аголеных мужчынскіх торсаў, як на арадау? А навязьліва-млявае "хочаш яго"?

Ці вось яшчэ, часопіс "FL". Кажаце, гэта сур'ёзна? Кошт аднаго нумару 1,25 эўра, і пералічыце грошы на ўласную паштовую скрынку Тарлецкага Эдуарда Зіноўевіча – вось гэта сур'ёзна. А ўсё астатняе – нейкае глупства.

Невялікі гістарычны экскурс з высновамі, якія сягаюць далёка ў будучыню. Прэс-сакратар БЛЛ Анжаліка Міхайлава 3 гады таму распавяла пра канфлікт лідэраў Лігі зь нейкай Тацянай Зуевай. Тая зьяўлялася старшынёй ці то клюбу, ці то арганізацыі "Сустрэча" і з зайздроснай упартасьцю езьдзіла на міжнародныя мерапрыемствы. Натуральна, называла яна сябе тым, хто выступае за правы і свабоды сэксуальных меншасьцяў Беларусі. З уласнага досьведу ведаю: усе міжнародныя тусоўкі – выключная халява. Накормяць, напояць, яшчэ, бывае, грошай "на дарожку" дадуць. Таму, хто будзе больш пераканаўчым. Невыпадковы і намёк з боку БЛЛ: Тарлецкі атрымаў папераджальных па шыі ад канкурэнтаў з "Встречи" (інцыдэнт на Панікоўцы, 24 ліпеня 1999 г., каля 23:00).

А наагул Эдзік, паводле ягоных уласных заяваў, ужо ў гэтым годзе выведзе на вуліцы сваіх сяброў з палітычнымі патрабаваньнямі. Хіба што ідэйныя гранты ў бабулькі-Эўропы ўжо скончыліся...



# Ці любіце вы тэатар так…

Андрэй Курэйчык



Цуды яшчэ здараюцца, нягледзячы на тое, што гэты сьлёган ужо спрабаваў прыбраць сабе да кішэні нейкі брэнд. Здараецца такое, што з затурканых выдатнікаў вырастаюць гучныя імёны. Тыповы прыклад – малады драматург Андрэй Курэйчык, які ўскалыхнуў заплесьнявелую тэатральную грамадзкасьць. А было ўсё як у нятленцы "Приходите завтра". Сьціплы студэнт юрфаку aka наіўная Фрося Бурлакова разаслаў па ўсіх буйных беларускіх тэатрах парачку п'есаў, а паралельна – і ў Маскву (чым чорт не жартуе?). Аказваецца, часам жартуе – адгукнуўся сам Алег Табакоў. Усё б добра, ды ня ў гэтым жыцьці.

Сьціплы нацыянальны герой паступова ператвараецца ў кепскі прыклад для пераймання, у гэткую пэрсону для зьдзекаў, у прыватнасьці – з боку айчынных творцаў.

Ніхто дагэтуль ня мог сабе дазволіць пасягаць на прыроджаную геніяльнасьць беларускіх тэатралаў так дзёрзка, як сын бухгальтара і настаўніцы інфарматыкі. Прыходзіць у манастыр са сваім статутам – тое, што трэба Курэйчыку.

Спрэчкі пра беларускі тэатар вядуцца даўно. Вось дзе ідэалягічны аазіс, адпрацаваная сыстэма прыгнёту і прыручэньня. "Важнейшым з мастацтваў для нас зьяўляецца кіно!" А як жа тэатар?! Хіба што таксама спатрэбіцца.

На фоне Курэйчыка зручна разглядаць сутыкненьне дзьвюх "рэлігіяў". З аднаго боку – узровень 1970-х, зь іншага – наватворчасьць без акадэмічнай даведкі.

Тэатар – асаблівая ідэалёгія. У вас кепскі настрой? Ідзіце ў тэатар! У вас і вашай паловы добры настрой? Дарога ў тэатар! Кажуць, не хапае жыцьцёвага досьведу? Ясна, у тэатар! Подлая савецкая сыстэма зрабіла сваю справу і выгадавала паслухмянае войска сцэнарыстаў, пастаноўшчыкаў, асьвятляльнікаў, грымёраў, рэжысэраў, актораў, білецёрак і вешалак, якія выдатна ведаюць, як супакоіць і "прычасаць". У першую чаргу гледача. Няма моцы трываць на барыкадах? Думкі пра адвечнае пасьпяхова гэта заменяць!

Зь іншага боку, з чаго б гэта юрыст-палітоляг стаў займацца далёка ня роднаснай прафэсіяй? Дома маладая, наіўная жонка, якая сустракае малазнаёмых гасьцей, на сьценах – калекцыя вэнэцыянскіх масак з дробненькімі трэшчынкамі-зморшчынкамі ля краёў вачэй... Гэта ўжо потым на бачным месцы зьявіцца фатаздымак Табакова. А першапачаткова ідэалістычная карціна не абяцала нічога эпахальнага.

Зараз бліжэй да фактаў. Андрэй Курэйчык стаў пераможцам конкурсу драматургіі, які ладзіцца Міністэрствам культуры Расеі і МХАТам імя Чэхава. Пасьля прайшоў стажыроўку і атрымаў рэжысэрскую адукацыю (МХАТ). У свае 22 напісаў 14 п'есаў і 2 кінасцэнары. Фактычна паслаў на ... знаўцаў прыгожага, калі сказаў, што пачынае "шызець ад сучаснага беларускага тэатру". Прафэсійная пазыцыя: "мастацтва – гэта заўжды канфлікт з сабой, з рэчаіснасьцю, са сьветам". Гэта менавіта ён упершыню гучна заявіў пра няслушнасьць сёньняшняга беларускага тэатру. Гэта Курэйчык зьвярнуў увагу на тое, што "ўсе тэатры езьдзяць на гастролі па сьвеце, а беларускія – пераважна ў госьці адзін да аднаго". Андрэй Курэйчык асьмеліўся зрабіць лякальную рэвалюцыю, не саромеючыся сваёй пазыцыі.

Зрэшты, ня ўсё так адназначна. Хто каму што пудрыць, пакуль незразумела. Інфармацыі ад Табакова – нуль. Была пастаноўка ці спадар галоўны рэжысэр перадумаў? Чаму маўчыць Масква? Магчыма, Курэйчык – якасна новы ідэоляг новай хвалі, які граматна мысьліць пра фэномэн беларускага мастацтва? Засталося напісаць практычны дапаможнік "Як заваяваць Маскву" – і справа ў капелюшы.

Як бы ні "терзали смутные сомнения", у гэтую казку верыш як у Дзеда Мароза зь дзіцячага садку. Бо тэатар сярэдняга ўзроўню надта надакучыў. У кожнай казцы крыецца доля праўды, за якую чапляесься як за выратавальную саломінку. Існуючыя нядатнасьці не даюць агледзецца, вось і атрымліваецца, што апрача іх нікога і не заўважаеш. Андрэй Курэйчык упершыню за ўсю гісторыю савецка-беларускага тэатру заявіў пра яго непасрэдную далучанасьць да сусьветнага шоў-бізу, наблізіўшы на колькі сантымэтраў новы час. І нават калі гэта страшная памылка, у яе хочацца шчыра верыць.

## "Краски" ушедшего лета"

### група "Краски"

Пакуль айчынная рок-эліта піла піва і ляніва калупалася ў носе, нехта задумаў падступны плян. Улічваючы банальную сацыялёгію, якая сьцьвярджае, што 80% нашых суайчыньнікаў - middle class са спальных раёнаў, няцяжа здагадацца, што менавіта "піпл будзе жэрці".

А было гэта так.

Нейкі Аляксей Воранаў, экс-арганізатар хіп-хоп вечарынак у парк-клюбе "Менск", разам зь вялікім камбінатарам Анатолем Мартыновічам, апальным экс-дырэктарам "ПанРэкардз", вырашылі падзарабіць. Мартыновіч па старой добрай звычцы абнавіў свой гаманец і зьнік, але Воранаў ня здаўся...

Выпускніцай канспіратыўнай фабрыкі зорак стала экс-пявуля з гурта "Лето" Аксана Кавалеўская. Правінцыялка з г.п. Сьмілавічы, падлетак, талент і проста цудоўная дзяўчынка. Добрая палова мужчынаў Менску сьцьвярджае, што і вельмі таварыская...

Пачатак прапаганды быў пакладзены яшчэ ў канцы 2000 году, калі нарадзілася першая "качка" для СМІ. Кшталту, Аксана стварыла групу "Опасный возраст" і самастойна гастралявала па гарадах і вёсках. Там яе і вышчаміў "Опасный возраст-2", які пагражаў пазбавіць самага галоўнага за скрадзеную назву. Карацей, канфлікт клонаў, а на яго базе - першая папулярнасьць.

Маленькая рэмарка. Ці добра вы памятаеце сябе першага студзеня любога году? А слабо ў гэты дзень зьдзейсьніць подзьвіг? Дык ведайце, што 1 студзеня 2001 году - дата гістарычная. У гэты дзень была афіцыйна народжаная група "Краскі", дакладней, "Опасный возраст" зьмяніў назву.



Зноў вернемся ў мінулае. З афіцыйных крыніцаў: "Салістка, аўтар музыкі і тэкстаў гэтай беларускай групы, нарадзілася 6 траўня 1983 году. Зь дзяцінства сьпявала ў самадзейнасьці, скончыла музычную школу, была пераможцам раённых і абласных конкурсаў, прадстаўляла Менскую вобласьць на "Славянском базаре" ў Віцебску..." Зь неафіцыйных: на момант стварэньня групы Аксана была "ў цікавым становішчы" і рыхтавала свайму дырэктару, так бы мовіць, сюрпрыз.

Гістарычная дата падпісаньня кантракту з Real Records (Расея) звычайна замоўчваецца. Як удалося ўламаць Real'нае кіраўніцтва на подпіс - адзін Бог ведае, але менавіта з гэтага моманту "Краскі" стрэлілі.

У "стольным градзе" пасьлядоўна адзьнялі 2 відэа. Па словах выканаўчага прадусара "Красок" С.Парчэўскага (па стане на травень 2002), бюджэт кожнага складаў каля 15.000 эўра. Трэба было тэрмінова верыць "Краскам" і акупляць укладзеныя ў праект сродкі. У прэсе зьявіліся заказныя артыкулы. Самае істотнае з прачытанага:

- "Мама кажа: "Вучыся добра, і будзеш вядомай, як гэтыя дзяўчынкі з "Красок";
- "Раней я слухаў толькі рок, але пачуў "Краски" - і мае думкі наконт папсы зьмяніліся";
- "Група "Краски" дапамагае нам служыць Радзіме. Асабліва блізкая нам песьня "Ты уже взрослый", якую наша рота - 50 чалавек - пракручвае па шмат разоў на дзень. Асабліва той момант, калі брат тэлефануе дахаты".

Голыя факты: 172 канцэрты ў рамках усебеларускага туру, 200 000 прададзеных аўдыёносьбітаў, 100 000 гледачоў пабывала на канцэртах.

Для падагрэву папулярнасьці быў зроблены беспрэцэдэнтны ход - разьвітальны тур "Красок". Яшчэ Ёзэф Гебэльс сьцьвярджаў, што чым больш грубая хлусьня, тым лягчэй ёй вераць. І меў рацыю. Беларускі тур атрымаўся. Хаця, зь іншага боку, што разумець пад "разьвітальны": Ёсіп Кабзон вось ужо дзесяць год разьвітваецца са сцэнай, ды ўсё ніяк... Як бы там ні было, а толькі попыт на рынку фармуе прапанову. Глядзець глыбей трэба!

Вось напачатку красавіка 2003 году вартаўнікі парадку насамрэч глыбока паглядзелі. Ды так, што Аляксей Воранаў апынуўся пад сьледзтвам. У кулюарах намякнулі, што Воранаў патрабаваў у пірата-кіёсачніка салідную суму. Зь лепшых памкненьняў, зразумела, - як кампэнсацыю за парушэньне ліцэнзійных правоў. А той хлопец - ня промах! - паведаміў куды трэба. Атрымалася справа па факце вымагальніцтва.

Такі накаркалі! Старадаўні рэклямны выкрут абярнуўся злым жартам. Няўжо канцэрты і напраўду былі разьвітальнымі, а ідэалёгія беларускага teen pop рухнула?!



F*CK YOU

## GOD IS A DJ!

### Андрэй Донін

Ці суразьмерна ўсё гэта з нашай мэнтальнасьцю-сэнтымэнтальнасьцю? Патрыярх усяе клюбнае культуры Андрэй Донін аўтарытэтна заяўляе "так". Ягоны рэсурс mixtura.org - магутная машына, якая актыўна прапагандуе "клябінг-лайф-стайл". Менавіта такой трансьлітэрацыяй - не забывайце, дзе і навошта жывяце.

Неяк небезьвядомыя актывісты зьвярнуліся да сп. Доніна з просьбай распавесьці ім, цёмным, пра людзей, якія стаялі ля вытокаў менскага клябінгу. У адказ пачулі штосьці кшталту "нясьціпла распавядаць пра самога сябе". Сапраўды, нясьціпла распавядаць пра тое і тых, што і якія мусяць ад пачатку сядзець у галовах "кветачных" шарагоўцаў.

Ці тое жарт, што нэонавыя агні, штучны дым і электронныя рытмы - рэлігія новага пакаленьня? Хіба што не. Дакладна вядома: сутнасьць рэйваў у свой час зводзілася да падначаленьня вялікіх масаў. Тэхналёгія простая: таблеткі, гук і сьвятло. Тры складнікі - гарантыя посьпеху.

Зараз клябінг з разраду элітарнай культуры паступова прасоўваецца да народных масаў. Пры гэтым губляючы свае першапачатковыя значэньні. Так сталася на Захадзе, дзе на мэга-вечарынках кшталту Smirnoff Experience можна лёгка сустрэць маладзёнаў, якіх бы ў нас назвалі быкамі і за пяць мэтраў ад ганку клюбу адганялі паганай мятлой. Тым часам уцямна патлумачыць, што такое клябінг, ТАМ зараз ніхто ня возьмецца.

"Ня возьмуцца там - возьмуцца тут", - падумаў Донін і напісаў маніфэст свайго рэсурсу, дзе адзінаасобна і з выкарыстаньнем таталітарных тэхналёгіяў сьцьвердзіў, чым ёсьць клябінг і клюбная культура ў Менску. І не забыўся ўзяць на сябе паўнамоцтвы газэты "Правда" пры ЦК КПСС: публічна ўказваць, накіроўваць і пры неабходнасьці ганіць. Дакладней, не на сябе, а на mixtura - сам Донін не трапляе ў фокус zoom і прысутнічае нябачна, нібы ўсявышні - суровы ды справядлівы. Відаць, Андрэй, які другой вышэйшай адукацыяй чамусьці абраў журналістыку, няхіла зачытваўся старымі па ідэалёгіі і новымі па піары падручнікамі, рэкамэндаванымі выкладчыкамі БДУ з корпусу па вул. Маскоўскай. Інакш адкуль такая маніякальная прага валодаць сэрцамі і розумамі, хай сабе і клябэраў?!

Як высьвятляецца, апошнія толькі і чакалі мэсію - не хапае ім "руководящей линии" ў напаўэлітарным лайфе. Наколькі яна магчымая пры наяўнасьці пары-тройкі клюбных установаў, адзінак тутэйшых ды-джэяў і адной-адзінай "крамы для brave". Як іхныя дзяды пачыналі ранак з той жа "Праўды" за гранёнай шклянкай грузінскай гарбаты, так некалькі сотняў маладых людзей зараз шторанку лезуць на вядомы сайт. Лезуць, каб даведацца, дзе ў гэтым горадзе што ня так і, адпаведна, куды можна было б схадзіць, ці не знайшлі замест Кропелькі новага "брэйва" і каб пачытаць сі-ві чарговага "запрошанага рэзыдэнта N-скага клюбу", аздобленае дурацкім фота.

Уласнаруч стварыўшы інфармацыйную манаполію, Донін добра ведае, чаго ён каштуе. На бясконцыя просьбы паставіць фляер вечарынкі апошнім часам спадар адказвае рэйтынгам наведваньняў mixtura.org і настойліва рэкамэндуе бедным (?) прамоўтэрам ставіцца да сайту як да не-альтруісцкага. Вядома, што і да таго ня самыя лепшыя адносіны зь некаторымі арганізатарамі вечарынак у яго канчаткова папсаваліся. Зрэшты, на тое ён і правакатар, каб аднойчы сказаць: "Не падабаецца? Ну і пайшлі вы!"



# CAMELOT

ПАКІНЬ СВОЙ СЬЛЕД

СТАЛІ ВЯДОМЫЯ ВЫНІКІ КОНКУРСУ **“CAMELOT. ПАКІНЬ СВОЙ СЬЛЕД”**, АБВЕШЧАНАГА Ў **“CD” №2/2003**

БОЛЬШ ЗА ЎСІХ ПАШАНЦАВАЛА **АЛЁНЕ АНДРЭЕВАЙ:** ЦЯПЕР ЯНА КРАСУЕЦЦА ЗЬ ФІРМОВЫМ ЗАПЛЕЧНІКАМ



А ЯШЧЭ **10 ПРЫЗОЎ** ЧАКАЮЦЬ СВАІХ УЛАДАЛЬНІКАЎ. СЯРОД АПОШНІХ:

**СЕЦЬКА** САША
**МАСЯЙЧУК** ГАННА
**АТРАШОНАК** А.А.
**ЦЫГУЛЁЎ** АНТОН
**РОГАЎ** АНДРЭЙ
**СМАГІН** ДЗЬМІТРЫ
**КАЦЯРЫНА** Т.
(ТЭЛЕФОН ПАЧЫНАЕЦЦА З 844)
**СУРМАЧ** ВАСІЛЬ
**ЮРЭВІЧ** АЛЕНА
**МІРОНЧЫК** ДАША

ПРЫХОДЗЬЦЕ НА **СКАРЫНЫ, 44** І ЗАБІРАЙЦЕ!

* ДЗЯКУЙ КРАМЕ **CAMELOT**, ЯКАЯ, ДАРЭЧЫ, МОЖА ПРАПАНАВАЦЬ ЯШЧЭ ШМАТ ЦІКАВАГА. **ЗАХОДЗЬЦЕ** - ПЕРАКАНАЕЦЕСЯ!

[а вось як усё адбывалася...]





аб'яднаньне “off-beats” (Lietuva-Berlin) і тэатар ACUD (Berlin) пры ўдзеле часопіса CD/“Студэнцкая Думка”

## БЭРЛІН
## 23-27 верасьня 2003 г.

# “OFF-BEATS“

фэст экспэрымэнтальнага мастацтва

**новая цэнтральнаэўрапейская культура ў павелічэньні**

### MESSAGE
Аб'яднаныя адной ракой Нямунас (Літва) - Нёман (Беларусь) - Неман (Калінінград, Расея) мастакі, музыкі, літаратары, акторы, рэжысэры тэатру і кіно на тыдзень маюць магчымасьць перанесьці сваё мастацтва на берагі Шпрэе (Бэрлін, Нямеччына). На пяць вечароў экспэрымэнтальны бэрлінскі Мастацкі цэнтар ACUD стане галоўнай сцэнай фэсту.

### PURPOSE
Фэст ня робіць асаблівых акцэнтаў на пэўных відах ці жанрах мастацтва. Яго мэта - прэзэнтаваць бэрлінскай публіцы актуальныя плыні ў экспэрымэнтальным мастацтве краінаў-удзельніцаў.

### PARTICIPATION
“Off-beats” шукае:
DJs, якія робяць цікавую і неардынарную музыку,
фотамастакоў, што здольныя ўбачыць небанальнае і зафіксаваць яго, плякатыстаў, якія ведаюць, пачым “опіюм”, кіна- і відэарэжысэраў, што здольныя прыемна ўразіць.

### DEADLINE
Заяўкі на ўдзел і прапановы прымаюцца да 30 красавіка 2003 году.

### CONTACT
2ss2@tut.by (“Off-beats”)
651 69 62 (about “Off-beats”)

# * ІНФАРМАЦЫЯ ВА ЎНІВЭРСЫТЭЦЕ

## бяры, што даюць, і не трындзі?

Informer - прафэсія, якую ў глыбокім юнацтве ўслявіў аднайменным шэдэўрам нейкі белы рэпэр. Ясна, што тады вялося крыху пра іншае, але для нас галоўны прынцып - ці ўмее звычайны студэнт цягам пяці год знаходзіць патрэбную яму інфармацыю. Алёна ШАЛАЕВА узьнікненьне адвечных “што рабіць?” пасьля ўнівэру і “хто вінаваты?” у такой раскладцы зьвязвае з тым, што збольшага мы не валодаем інфармацыяй. Журналісцкае дасьледаваньне, як гэта ў нас і як у іх, ніжэй.

# AB OVO: ШЛЯХ НА АБІТУРУ

"Вас няма на Канарах, вас няма на Кіпры. Вас няма ні на адной вечарыне і дыскатэцы сьвету. Штогод у рабства БДМУ трапляе каля тысячы студэнтаў. Праверце абраную ВНУ!"

Жарт, такі папулярны ў мэдыцынскім унівэрсытэце, насамрэч указвае на глябальную праблему нашай адукацыі - выбар ВНУ. Абітуры, якая грае лёсавызначальную ролю ў жыцьці кожнага чалавека, у нас прынята надаваць мала ўвагі. І калі працэс паступленьня трохі ўяўляецца, то далейшае навучаньне - у змроку. Тым часам абітурыенцкія дасьледаваньні могуць рэальна дапамагчы разабрацца, ці варта ў дадзены ўнівэр аддаваць свой атэстат.

"Даведніка для абітурыентаў" толькі і хапае на тое, каб высьветліць назву факультэту і абранай спэцыяльнасьці, сьпіс уступных іспытаў і тэлефон прыёмнай камісіі. У лепшым выпадку - мінулагодні конкурс. Асноўныя крыніцы інфармацыі - сама прыёмная камісія і Дзень адчыненых дзьвярэй, калі можна прыціснуць да сьценкі дэкана з пытаньнямі пра абраную спэцыяльнасьць. Матывацыя паступленьня відавочная па найбольш распаўсюджаных пытаньнях: колькі іспытаў? які будзе конкурс? якія ільготы для паступленьня? А што будзе далей - турбуе адзінак, мала каму прыходзіць у галаву, што, магчыма, лепш паступаць два, тры разы ў "сваю" ВНУ, чым трапіць куды атрымаецца і пяць гадоў займацца фігнёй.

Alex (Humber College, Graphic Design and Advertising, Toronto, Canada) зьдзіўляецца, як усё сумбурна і непрадумана ў нас адбываецца.

"У маёй High School (9-12 кл.) для кожнага складаецца індывідуальны плян заняткаў у адпаведнасьці з тым, дзе зьбіраесься вучыцца далей. Спэцыяльны кансультант дапамагае выбраць патрэбныя курсы. Напачатку апошняга году навучаньня запаўняеш стандартныя формы, дзе ўказваеш навучальныя ўстановы і факультэты (ня болей за тры), а пасьля чакаеш. ВНУ сама робіць запыт у школу, якія курсы вывучаў і якія меў адзнакі. Яны выдаюцца ў адсотках: 70% - для каледжаў, 80-85% - для ўнівэрсытэтаў. Далей усё залежыць ад колькасьці абітурыентаў і тваіх паказчыкаў. Школа і каледж, дзе я вучуся - з мастацкім ухілам, таму я мусіў зрабіць сваё portfolio. Дзякуючы яму мяне залічылі адным зь першых, нягледзячы на тое, што адсоткаў не хапала".

Беларусь - гэта не Канада і нават ня Польшча. Якія б рэформы ні абвальваліся на галовы выкладчыкаў і вучняў, плёну ад іх мала. Нашая сыстэма адукацыі яшчэ не гатовая да таго, каб разглядаць кожнага вучня як патэнцыйнага студэнта, а катэгорыя "сярэднячок", на якую, як кажуць, і разьлічаныя ўсе навіны, - паняцьце неканкрэтнае і малазразумелае.

Выйсьце ёсьць, яго ня можа ня быць. Адзін з варыянтаў - профільныя клясы, ліцэі, гімназіі, праца якіх накіраваная на пэўную навучальную ўстанову. Атрымаўшы тут сярэднюю адукацыю, адназначна лягчэй і паступіць, і вучыцца далей. Да таго ж і выбар зроблены сьвядома ды прадумана і, безумоўна, ён мусіць быць апраўданым, бо гэта лягічны і заканамерны вынік папярэдняй вучобы.

Alex: "У 10 клясе ў мяне не было ніводнага абавязковага курсу. Я выбіраў тое, што адпавядае будучай прафэсіі. У сэмэстар - ня больш за чатыры дысцыпліны. Напрыклад, я вывучаў выяўленчае мастацтва, фатаграфію, digital-фота і фізыку. У якасьці іспытаў па першых трох я рабіў выставу лепшых работаў, а па фізыцы - пісьмовую працу. Такім чынам, настаўнік завысіць ці занізіць адзнаку ня мог. Хаця ў мяне былі кепскія адносіны зь некаторымі настаўнікамі з-за паводзінаў, але на атэстаце гэта не адбілася".

## ЗАПАВЕДЗІ ПАСЬПЯХОВАГА СТУДЭНТА

Квіток у дарослае жыцьцё атрыманы, засталося вывучыць правілы гульні. Асноўнае зь іх - быць заўсёды ў курсе, весьці актыўны і дынамічны інфармацыйны пошук.

Статыстыка паказвае, што найлепшым інфарматарам для студэнта зьяўляецца навакольнае асяродзьдзе - усё, што трапляе на вочы і ў вушы. Паводле нашага прыватнага апытаньня, праведзенага ў некалькіх групах мэдунівэрсытэту, пэдунівэрсытэту і БДТУ, высьветлілася, што лепшыя крыніцы - сябры, знаёмыя і чуткі. Колазварот інфармацыі ў прыродзе трымаецца на народнай мудрасьці: у адно вуха ўляцела, з рота вылецела і такім чынам перадалося. На падсьвядомасьць усё ж больш працуе зрокавая памяць, і "недзе бачыў" часта мае канкрэтнае геаграфічнае месцазнаходжаньне - дошка аб'яваў (дошка інфармацыі). Менавіта адтуль студэнты (прыкладна 60%) даведваюцца пра жыцьцё роднага ўнівэру і ня толькі. Чым больш на дошцы паперак, тым большы шанец быць у курсе.

З "прыстойных" можна адзначыць БДУшную дошку інфармацыі, дзе ёсьць усё - ад навучаньня да "куплю-зраблю курсавую" ці "прафэсійна здыму вясельле" (гм...). У некаторых ВНУ, праўда, сочаць "за чысьцінёй". Студэнты БДТУ наўрад ці даведаюцца са сваёй дошкі інфармацыі, што адбываецца днямі ў NC-клюбе, але "Важнейшыя парамэтры прагнозу сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця РБ на 2003 г." мусяць вывучыць на памяць.

Iren (Washington) распавядае, што ў яе ўнівэры дошка інфармацыі займае ўсю сьцяну і, акрамя ўласна аб'яваў, на ёй процьма пэрсанальных файлаў-скрынак. "Кожная кішэнька падпісаная, і любы чалавек - ці то выкладчык, ці то студэнт - укідвае туды для мяне інфармацыю. Пасьля заняткаў я ўсё забіраю і таму заўсёды бываю ў курсе ўсіх справаў".

Так што прыстойная дошка аб'яваў - гэта добры дапаможнік у арыентацыі на мясцовасьці. **Запаведзь №1: НЕ АБМІНІ!**



Ідзем далей. Калі на першым курсе татальных "уводзінаў" спасьцігаць трывіюмы і квадрывіюмы выключна па канспэктах выкладчыка магчыма, то потым безь бібліятэкі не абыйсьціся. Як не абыйсьціся і без абломаў: "нацыяналка" - з трэцяга, "прэзыдэнцкая" - з чацьвертага курсу. Але хто шукае, той знойдзе. Па-мярцьвяцку спакойныя залі бібліятэкі Акадэміі навук прымаюць першакурсьнікаў.

**Запаведзь №2: НЯ ДАЙ МАЗГАМ ЗАСОХНУЦЬ!**

Alex: "У нашай бібліятэцы ёсьць месцы для "ціхага" навучаньня і месцы "масавага згрупаваньня", дзе можна палазіць па нэце, e-mail праверыць ці research зрабіць. Натуральна, гэта бясплатна. Усё, што можа спатрэбіцца з падручнікаў і энцыкляпэдыяў, знойдзеш тут. Калі ня можаш знайсьці патрэбную інфармацыю?.. Не, не ўяўляю сабе такога".

У нашых бібліятэках самая галоўная праблема (і ня толькі для першакурсьнікаў) - каталёг. Да электроннай сыстэмы пошуку не дабрацца, ды і не паўсюль яна ёсьць. Ад сотняў драўляных скрынак робіцца млосна. Але ў кожным такім гармідары абавязкова павінен быць чалавек, які цьвяроза кеміць, што-дзе-як. Гэта дзяжурны бібліёграф, непасрэдная праца якога перш за ўсё - дапамагаць наведнікам шукаць і арыентавацца.

Kristie (Simmons College, library and Information Science, Boston, USA): "Бібліятэка каледжу вельмі багатая, мае падпіску на мноства часопісаў і газэтаў. Па іх звычайна і вучацца, бо манаграфія пакуль выйдзе, дык губляе актуальнасьць. Шмат заданьняў студэнтам даецца менавіта па часопісных артыкулах - гэта больш сьвежая і надзённая інфармацыя. Існуе вялікая колькасьць камэрцыйных электронных сыстэмаў. Напрыклад, мяне цікавіць вельмі вузкі прадмет: я набіраю ў той ці іншай пошукавай сыстэме ключавое слова і бачу, у якіх часопісах ёсьць патрэбныя мне артыкулы, з нумарамі і старонкамі. Іду ў бібліятэку, бязь цяжкасьцяў знаходжу і працую. Было б жаданьне вучыцца..."

Розьніца ў бібліятэках - справа часу. Прынцыповым застаецца падыход студэнтаў да вучобы. 81,3% вучацца па лекцыях выкладчыкаў, якія, дарэчы, могуць быць напісаныя яшчэ да нашага нараджэньня. 70% ад агульнай колькасьці выкарыстоўваюць падручнікі і мэтадычкі. І толькі 23% студэнтаў наведваюць бібліятэкі.

Паводле CD-анкетаваньня, такая крыніца інфармацыі, як інтэрнэт, не ўваходзіць у тройку лідэраў. І гэта пры тым, што сапраўды карысную і цікавую інфармацыю зьмяшчаюць студэнцкія сайты, асабліва неафіцыйныя. Студэнцкая халява ёсьць паўсюль: рэфэраты, курсачы, шпоры і шмат чаго яшчэ "ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі ВНУ". Мэдыкі для дармовага скачваньня разьмяшчаюць музычныя навіны, а на наргасаўскім сайце можна замовіць і набыць (4-6 у.а.) файл са шпорамі, "выпрабленымі па спэцыяльнай тэхналёгіі".

На большасьці сайтаў зьмяшчаецца і курс маладога байца для першакурсьнікаў: парады, пажаданьні, уласны досьвед і ўспаміны "дзядоў".

Вельмі карысная рэч - кампрамат на выкладчыкаў: фоткі (ворага трэба ведаць у твар), мэтодыка выкладаньня, як прымае іспыт, адзначае ці не і інш.

Ёсьць унівэрсальныя сайты (www.student.mag.by, www.skoch.narod.ru), дзе можна знайсьці ўсё гэта плюс мноства патрэбных спасылак, адрасы ў нэце навучальных установаў, пошукавыя сыстэмы і інш. Ну і нельга забывацца на www.studumka.com - там як мінімум знойдзеш электронную вэрсію часопіса.

**Запаведзь №3: КАРЫСТАЙСЯ І ПАДКАЖЫ БЛІЖНЯМУ СВАЙМУ.**

Інфармацыйны трохкутнік "дэканат - катэдра - куратар" мае вялікае значэньне ўжо таму, што зь людзьмі, якія там працуюць, даводзіцца кантактаваць цягам пяці год. Уся афіцыйная інфармацыя канцэнтруецца ў дэканаце. Ведаць усё пра навучальны працэс - ад раскладу заняткаў на сэмэстар да прозьвішчаў кіраўнікоў курсавых працаў - там проста абавязаныя.

У наш час ёсьць такія выкладчыкі, для якіх самае галоўнае на іспыце - ведаць зьмест "буквара, другой і сіненькай" кніжачак. Адпаведна, каб асабліва ня парыцца, варта зьвяртацца адразу на катэдру.

Што да куратара, дык асабіста ў мяне ён асацыюецца з "чалавекам-невідзімкам": ён альбо ёсьць - і тады чакай, што выцягне зь цябе ўсе вантробы, - альбо яго папросту няма - не было і ня будзе! У любым выпадку, ягоная праца - стаць дублікатам таткі і мамкі, быць абаронцам ад зьвераватых камэндаў, несправядлівых выкладчыкаў і іншай трасцы.

**Запаведзь №4: НЕ ПАГРЭБУЙ І ПРАСІ ДАПАМОГІ!**

А вось сапраўды рэальную дапамогу (у санаторна-прафіляктычным лячэньні, у кантролі за павелічэньнем і выплатай стыпэндыі, у атрыманьні сацыяльнай дапамогі, у рэшце рэшт, у абароне правоў і абавязкаў) аказвае прафсаюзная арганізацыя ўнівэрсытэту. Варта зьвярнуцца да прафоргаў, якія ёсьць у кожнай групе. Адзінае "але": на практыцы даказана - самыя лепшыя прафсаюзныя арганізацыі тыя, дзе колькасьць нядаўніх студэнтаў перавышае 50%. Апошнія яшчэ памятаюць дрыжыкі на скуры і адрэналін у крыві ад студэнцкага жыцьця.

**Запаведзь №5: ГРУКАЙ, І АДЧЫНЯЦЬ ТАБЕ!**

## НАВУЧАНЬНЯ НЯЎЛОЎНЫ СЭНС

"Мне ў нашых выкладчыках больш за ўсё падабаецца іх зварот да студэнтаў - "калега". Гэта, як вы можаце здагадацца, выказваньне канадыйца Alex'a. Для нашага выкладчыка студэнт можа быць кім заўгодна, але не калегам. Ён нават не актыўны ўдзельнік навучальнага працэсу - так, проста яго "суб'ект". Суб'екту права голасу надаваць не абавязкова, ён - ахвяра пасіўнага навучаньня: бяры што даюць і не трындзі! Адпаведна, дрэнны студэнт ня той, хто ня ведае, а той, хто прагульвае лекцыі і практычныя. І спыніць такую фігню можна хіба што сваім татальным ненаведваньнем.

"А нафіг мне вашая інфармацыя, калі і так нармальна?" - самае распаўсюджанае пытаньне, незалежна ад тэмы. Сапраўды, навошта, калі ўсё даўно зацьверджана, прадугледжана і расьпісана? Ад дзіцячага садку і да сканчэньня працоўнай дзейнасьці нас стымулююць на пасіў.

Kristie распавядае, што ў яе навучальнай установе студэнт сам вырашае, на якой дысцыпліне хацеў бы сканцэнтравацца больш. "Сам запісваесься на патрэбныя курсы і да пэўных выкладчыкаў. Пасьля сканчэньня курсу даеш камэнтар па гэтай дысцыпліне і адносна выкладчыка: што спадабалася, а што - не. Такія анкеты зьмяшчаюцца ў адпаведных папках (яны адкрытыя для шырокага доступу), і гэта дапамагае зарыентавацца іншым студэнтам. Такім чынам ты маеш магчымасьць падпарадкаваць пад свае патрэбы і жаданьні ўвесь навучальны працэс".

У нашых умовах спроба аднаго, некалькіх, групы, - нарэшце, некалькіх групаў студэнтаў зьмяніць выкладчыкаў заканчваецца ў лепшым выпадку ігнараваньнем з боку дэканату, у горшым - перасьледам выкладчыкамі "самых умных" і маніякальнай помстай "арганізатарам". І гэта пры там, што тэарэтычна такое права наш студэнт мае. Як, між іншым, і мае права на індывідуальнае навучаньне (Закон "Аб адукацыі" ў рэдакцыі ад 19.05.2002 №95-З). Яно даецца студэнтам 4-5 курсаў, якія пасьпяхова праявілі сябе ў эфэктыўнай самастойнай працы. Маецца на ўвазе наступнае: акрамя абавязковых дысцыплінаў, якія да гэтага часу ў большасьці выпадкаў здадзеныя, студэнт сам абірае патрэбныя для яго дыплёмнай працы ці далейшай прафэсійнай дзейнасьці курсы.

Але хто пра гэта ведае? Відаць, афішаваць інфармацыю адміністрацыям унівэрсытэту не на руку - навошта мець лішні галаўны боль у выглядзе студэнта з касьмічна недасяжнымі пытаньнямі? Застаецца спадзявацца адно што на ўласную актыўнасьць. Зрэшты, любая ВНУ дае магчымасьць вучыцца, але ніхто не гарантуе адукаванасьць без уласнага жаданьня...



# БАЙКІ ПАД ЭКСТАЗІ!

## ФРЭДЭРЫК БЭГБЭДЭР

АД ПЕРАКЛАДЧЫКА

**У АДНЫМ СА СВАІХ ТВОРАЎ ФРЭДЭРЫК БЭГБЭДЭР З ГОНАРАМ ГАВОРЫЦЬ ПРА СЯБЕ ЯК ПРА КУЛЬТАВАГА АЎТАРА, ЧЫЕ КНІЖКІ РАЗЫХОДЗЯЦЦА Ў ФРАНЦЫІ НАКЛАДАМІ ПА 10 ТЫСЯЧ АСОБНІКАЎ. У ПАРАЎНАНЬНІ З САВЕЦКІМІ ТЫРАЖАМІ ІВАНА ШАМЯКІНА ДАСЯГНЕНЬНЕ БОЛЬШ ЯК СЬЦІПЛАЕ. АЛЕ, ЗГАДАЎШЫ ПРА СЁНЬНЯШНІ СТАТУС ЛІТАРАТАРА, ПРЫЗНАЕМ, ШТО ГЭТА САПРАЎДЫ ПАПУЛЯРНАСЬЦЬ.**

**УЛЮБЁНЕЦ ПАРЫСКАЙ ПУБЛІКІ НАРАДЗІЎСЯ Ў 1965, А Ў 1990 ДЭБЮТАВАЎ РАМАНАМ "УСПАМІНЫ ЗАКЛАПОЧАНАГА МАЛАДЗЁНА". НАСТУПНЫЯ КНІГІ З "ЖЫЦЬЦЯРАДАСНЫМІ" НАЗВАМІ "ВАКАЦЫІ Ў КОМЕ" (1994) І "КАХАНЬНЕ ЖЫВЕ ТРЫ ГАДЫ" (1997) ПРЫНЕСЬЛІ ЯМУ ЗАСЛУЖАНУЮ СЛАВУ ПІСЬМЕНЬНІКА З ВЫТАНЧАНАЙ (НЕХТА СКАЗАЎ БЫ – ВЫЧВАРНАЙ) ФАНТАЗІЯЙ, ДАСЬЦІПНАГА ЛІТАРАТУРНАГА СНОБА, ЯКІ ТОНКА АДЧУВАЕ МОДУ Й НАВАТ МОЖА ДЗЕ-НІДЗЕ НА ЯЕ ЎПЛЫВАЦЬ. АЛЕ ЎСЕ РЭКОРДЫ ПОСЬПЕХУ ПАБІЎ РАМАН "99 ФРАНКАЎ" (2000), ДЗЕ БЭГБЭДЭРУ ПРЫДАЎСЯ ЯГО ДЗЕСЯЦІГАДОВЫ ДОСЬВЕД ПРАЦЫ Ў СФЭРЫ РЭКЛЯМНАГА БІЗНЭСУ. ГРАТЭСКАВА-КАМІЧНЫ СЬВЕТ КОПІРАЙТЭРАЎ І КРЫЭЙТЭРАЎ НЕ ПАКІДАЕ ЧЫТАЧУ ІЛЮЗІЯЎ, ШТО ДА ЦЫНІЗМУ Й ПРАДАЖНАСЬЦІ СЛОВА, КАЛІ СПРАВА ДАТЫЧЫЦЬ КАМЭРЦЫІ. ПРАЎДА, ТОЕ, ШТО НЕКАЛІ ВЫКЛІКАЛА ШАЛЁНАЕ АБУРЭНЬНЕ БАЛЬЗАКА, ПРАЗ ПАЎТАРА СТАГОДЗЬДЗІ "ЦЯГНЕ" АДНО НА ЗМРОЧНУЮ ІРОНІЮ. БЭГБЭДЭРАЎСКІ ПЭРСАНАЖ У НАРКАТЫЧНЫМ АЧМУРЭНЬНІ (НЕХТА СКАЗАЎ БЫ – АЗАРЭНЬНІ) СПРЫТНА МАЙСТРУЕ РЭКЛЯМНЫЯ СЬЛЁГАНЫ, ЧЫТАЧ АДКАЗВАЕ ЯМУ ВЫБУХАМІ РОГАТУ, А ПЯЛЕВІН НЭРВОВА КУРЫЦЬ ГРЫБЫ.**

**НАРКОТЫКІ ФІГУРУЮЦЬ І Ў БЭГБЭДЭРАЎСКІМ ЗБОРНІКУ КАРАЦЕНЬКІХ АПОВЕДАЎ "БАЙКІ ПАД ЭКСТАЗІ", ГЭТЫМ РАЗАМ – ЯК ГАЛОЎНАЯ ТЭМА. ПІСЬМЕНЬНІК ШЧЫРА ЦЕШЫЦЦА, ШТО МЕНАВІТА ЁН СТАЎСЯ Ў ФРАНЦЫІ ЛІТАРАТУРНЫМ ПЕРШААДКРЫВАЛЬНІКАМ ЭКСТАЗІ. АЛЕ АДРАЗУ Ж ДАДАЕ, ШТО ГЭТАЯ КНІГА – НЕ РЭКЛЯМА НАРКОТЫКАЎ. БО ЯНЫ РАЗБУРАЛЬНА ЎЗЬДЗЕЙНІЧАЮЦЬ НА ЧАЛАВЕЧЫ МОЗАГ, "ЯСКРАВЫМ ДОКАЗАМ ЧАГО, – ІРАНІЧНА КАЖА БЭГБЭДЭР, – СЛУЖЫЦЬ МАЯ КНІГА". ПРЫНАМСІ, САМАКРЫТЫЧНА.**

АНДРЭЙ ХАДАНОВІЧ





## ЯК ЗРАБІЦЦА ЧАЛАВЕКАМ

Жыцьцё ў мяне галімае, самы час зь ім канчаць. Мяне задзяўбала вазіць розных адмарозкаў, якія сьмярдзяць крэмам пасьля галеньня й рассыпаюць па заднім сядзеньні какаін. Я сёньня пад завязку набраўся анісавай ды празаку, а таму сраць я хацеў на іх напамаджаныя галовы з саплівых сэрыялаў.

Як я дакаціўся да ўсяго гэтага? Спытайце чаго іншага! Калі я быў маленькім, я верыў, што ўсё жыцьцё нападзе. І вось цяпер я вялізны бамбіза, працую таксоўцам па выкліку ў Парыжы й ваколіцах, і пада мною струменіць вуліца Рывалі. Я мінаю шыкоўныя апартамэнты зь відалямі на Цюільры, што бітма набітыя фарбаванымі бабамі, якіх трахаюць на канапах "Рамэа"-тэлевядучыя. Ззаду ад мяне памірае ад сьмеху пасажырка, ня ведаю, што ўжо такое вярзе ёй на вуха гэты чарнявы мудак: "Дарлінг, я набыць сабе нью гелікоптэр для мой яхта... альбо нью яхта для мая гелікоптэр? Альбо самалёт, каб ганяць па маёй басэйн?" Клаў я на цябе з тваім басэйнам, казёл. Зараз ты ў мяне ў штаны наробіш.

Ушчэнт разьюшаны, я штосілы выціскаю пэдаль газу. А сам гляджу ў люстэрка задняга агляду на яго напудраны нос, напамаджанае валосьсе, залаты ланцуг. Ці хутка там яго грэбаная дарлінг перастане рагатаць?.. Я верыў, што жыцьцё некалі дасьць мне шанец, што яно рыхтуе для мяне нейкі сюрпрыз. Раскатаў губу! Сюрпрызы - толькі для багатых. А жыцьцё бедака відаць, як на далоні. Яго можна апавесьці наперад. Будучыня - гэта не для мяне. Я брыдкі, на мне дрэнны прыкід, гэтая пара з пагардаю ўтаропілася ў маю тлустую патыліцу, у маю бычыную шыю. Вядома ж, самі яны прыгожыя й добра пахнуць; мною яны грэбуюць. Яна сьмяецца зь мяне, далібог, але не бяды, я з гэтым пакончу. Плошча Згоды? Ніштo сабе пабадзяцца па начным горадзе. Ды нават гэтае мне сёньня не абломіцца.



Зарабляю я мізэр, а значыць, і сам я істота мізэрная. Той, з кім ніхто ня лічыцца. Той, каго называюць па імені, дадаючы "мсьё", нібы зьвяртаюцца да лёкая. Так, мой лёс ніколі не нагадваў плошчу Згоды, зыркую, бліскучую - гэтыя словы для іншых. А я п'ю, каб забыць, што пра мяне забылі. Жыцьцё, пазбаўленае ўсякага сэнсу. Я цісну на газ, бо мне абрыдла заставацца ўвесь час на ўзбочыне. Вось халера! так і ёсьць, яна расшпіліла арабу прарэх і, зуб даю, бярэ цяпер у рот, мне ўсё відаць у люстэрка, іх, мабыць, узбуджае, што я магу іх засьпець, яна дрочыць яму дручок, пакуль ён сам набівае нос какаінам. Трасца ім у бок, моцы маёй больш няма гэта ўсё трываць. І што яна ў ім знайшла, апроч яго сраных бабак? І чаму гэта мне, курва, ніколі не лізалі яйцаў на заднім сядзеньні лімузына? І чаму гэта яна глядзіць на мяне з такім спачуваньнем, грэбаная паталуха з вашывымі мяцёлкамі й паскуднай парфумаю, ад якой хочацца ванітаваць? Ненавіджу ласкавасьць гэтых дабрадзеяў, іх усьмешкі, якія азначаюць "валі адсюль!", нібыта вы ў іх міласьціну просіце. Я тады пачуваюся проста вырадкам і дэбілам.

Па радыё круцяць "Viva Forever" "Спайс Гёлз". Я ўрубаю на ўсю катушку. Я самая недарэчная рэч у гэтай машыне. Прыйшоў зь ніадкуль і пайду ў нікуды. Я ганю па ўзьбярэжнай. А гэты подзеўбень наўмысна



стогне так, быццам здымаецца ў порна. Прыйшоў зь ніадкуль і пайду ў нікуды. У мяне таксама былі кабеты, але такія, што лепш павесіцца, і ім яшчэ было са мною нудна. Мне не было чым іх уразіць. Яны нават шкадавалі, што былі са мной. Ніхто так і не захацеў дажыць да старасьці са мною разам. (Нават я сам.) Я ні разу ні ў каго не закахаўся й ні разу нікога не задаволіў. Каханьне каштуе надта дорага, я ня меў такіх сродкаў. Я тоўсты, галімы вадзіла, што сьціскае баранку тлустымі, як сасіскі, валасатымі пальцамі. Мой бацька ўвесь час паўтараў, што я ні на што ня здатны, і я зрабіў усё, каб ён, нарэшце, меў рацыю. Я закінуў заняткі - замест гэтага марнаваў час, строячы дурня перад тэлескрыняй. Адзіны іспыт, на якім я не праваліўся, - гэта калі я здаваў на правы (і тое - дзякуючы службе ў войску).

Навошта жывуць такія як я? Якая ад нас карысьць? Ніякай, толькі паветра псуем. Пра нас ня пішуць у "Вуасі". На маё пахаваньне наўрад ці зьбярэцца процьма народу. Госпадзе, калі ты існуеш, растлумач мне, калі ласка, чаму я заўсёды меў такое дрэннае адзеньне? Ну, так яно і ёсьць, ён кончыў ёй проста ў рот, паскуднік. Яна сплёўвае ў насоўку. Нават праглынуць не магла, вядома ж, арабская спэрма - гэта табе не іранская ікра. Гандляваць сваёй задніцай - гэта мы любім, а нармальны мінэт зрабіць - гэта асадзі назад, я правільна разумею, шлюшка? Вы толькі зірніце, якія яны шчасьлівыя. Хоць на фотку. Нічога, яны мне заплацяць. Я сабе спакойна стаяў ля стойкі ў бары "Ублі", паволі жлукціў анісавую, плявузгаў пра чорных з такімі самымі, як я, скончанымі людзьмі, і тут звоніць мабільнік: трэба забраць нейкіх неданоскаў, якія цяпер тыкаюць мне ў самую пысу сваім бясхмарным шчасьцем, і яны яшчэ хочуць, каб я сказаў ім дзякуй?

Чарнявы запускае свае дагледжаныя пальцы ў фарбаваныя валасы бля... ндынкі. "Viva Forever". Ну, гэта мы яшчэ паглядзім. Мабыць, у іх паменее пыхі, калі іх анёльскія фізіяноміі на поўным ходзе аздобіць бітае шкло. Кожнаму раней ці пазьней выпадае шанец. Да гэтай ночы я ня меў такога шанцу ніколі. Сёньня - апошні дзень майго жыцьця. Дагэтуль мне ўсюды давалі высьпятка, але цяпер усё ў маіх руках. Упершыню ў жыцьці я захацеў чагосьці дабіцца: калі жыцьцё пайшло на глум, трэба пастарацца, прынамсі, прыгожа памерці.

"Mister Paul, you're driving too fast!"

Ага, заторгалася, мая прынцэса! Але не, я не зьбіраюся марнаваць такога цудоўнага выпадку. Мы набліжаемся да Альма і на хуткасьці дзьвесьце кілямэтраў у гадзіну ўлятаем у тунэль. Алегоп! мне больш няма чаго губляць, адзін паварот руля - і я ўразаюся проста ў мур. Пайшлі вы ўсе на...! Цяпер увесь сьвет даведаецца, хто я такі.

Сьмерць, шыкоўная, як гатэль "Рытц".

Хто ведае, можа, мяне будуць згадваць нават у дзьвюхтысячным годзе.

## САМОТА РАЗАМ

Магчыма, чалавек і ня створаны для таго, каб жыць у самоце, але ён усё-ткі самотны - нават беручы шлюб, чалавек застаецца самотным і непрыкаяным на плянэце, што імчыць у міжзорнай прасторы з хуткасьцю 29,79 кілямэтраў у сэкунду. Чалавек нараджаецца, бегае, сьпяшаецца жыць, чытае кнігі, ходзіць у кіно, пакутуе, зьядае свой сьнядана, памірае. Часам, у перапынках, яму можа здацца, што ён ня створаны для таго, каб жыць вечным кавалерам. І тады ён наважваецца закахацца, то бок пачынае хлусіць нейкай прыгожай жанчыне



гэтаксама, як ён хлусіць самому сабе. Давайце зірнем на яго, маючы хоць каліва спагады: як рупліва ён уводзіць яе ў зман, рыхтык дэпутат у разгар перадвыбарчай кампаніі! Ці здагадваецца ён, што яго абяцанкі так і ня будуць споўненыя? Ён можа паспрабаваць пераканаць сябе ў тым, што ён шчасьлівы. Ён ажэніцца, наплодзіць дзяцей, наробіць каляровых фатаздымкаў, спрабуючы ўвечніць тое, што мінае. Як расчульвае ягоная ўсьмешка, калі ён разглядае нэгатывы! Адной рукою ён абдымае ружовага дзіцёнка, які пакуль ня ведае, што некалі таксама зробіцца самотным. Другой рукою ён сьціскае руку сваёй абраньніцы (ці то каб яна ня зьбегла, ці то проста каб адчуваць сябе спакайней).



У дзень, калі чалавек разумее, што ён падмануты, ён падымае вочы ў неба, нібы дакараючы сьлязьмі сонца, якое знаходзіцца на адлегласьці 152 мільёны кілямэтраў ад Зямлі. Ён поўзае ў брудзе, ванітуе рэшткамі ежы - ён настолькі варты жалю, што мы просім вас прабачыць яго за гэты недарэчны эпізод. Потым ён выпраўляецца ў вечаровыя загулы, урэшце сьцяміўшы, што ўсім наканавана быць кавалерамі. Каб зьмірыцца з гэтым фактам, адным патрабуецца больш часу, другім менш, але такі ўжо лёс ім прызначаны самой прыродай: цягацца з бару ў бар, з гораду ў горад, ад жанчыны да жанчыны, глядзець відэа, паглынаць "балінас", танчыць перад люстрам, рабіць зь сябе кагосьці не таго, кім ты ёсьць, выдумляць розныя прыбамбасы накшталт ёгуртаў, парфумы, аўтамабіляў альбо раманаў - усё для таго, каб уразіць жанчынаў (і, вядома ж, дарэмна, бо жанчынаў уражвае толькі тое, што ня выдуманае).

Кавалеры дрэнна пахнуць, бо яны ня маюць жанчыны, якая прымушала б іх мыцца. Часьцяком кавалера можна пазнаць па вінным перагары. Ён дрэнна паголены, на яго сьмярдзючай кашулі бракуе гузіка. Кавалер выклікае хутчэй шкадаваньне, чым зайздрасьць - ва ўсіх, апроч жанатых мужчынаў, якім здаецца, быццам кавалер мае свабоду, тады як гэта толькі роспач. Госпадзе Божа, да якой роспачы трэба дайсьці, каб у нядзелю ўвечар есьці "Happy Meal", утаропіўшыся ў тэлевізар, пагатоў пасьля таго, як красуню Анну Сынклер на экране зьмяніў які-небудзь Мішэль Друкер.

Жанаты чалавек, натуральна ж, ня мае рацыі, калі зайздросьціць кавалеру, але ён ня ў стане нічога з сабою зрабіць, гэта мацней за яго, ён марыць пазабіваць іх усіх, яму здаецца, што кавалерам няма праходу ад жанчынаў, што жыцьцё іх поўнае чароўнымі прыгодамі: італійскімі ўік-эндамі, аральнымі асалодамі, вытанчанымі мілоснымі прызнаньнямі й пяшчотнымі пасланьнямі ў галасавой паштовай скрынцы "Itineris". Яму няўцям, што кавалер штовечар вяртаецца дадому сьліну каўтнуўшы, калі ён, вядома ж, не тусуецца ў мужчынскай хеўры (а па-за тым трэба быць на хвалі моды, а гэта ня цягнецца доўга). Найлепшы довад гаротнага стану кавалераў - гэта тое, што іх ня хочуць жанчыны: яны аддаюць перавагу флірту з мужам сваёй найлепшай сяброўкі.

Калі гаворка асабіста пра мяне, дык я жыву ня сам ад уласнай слабасьці. Мне не стае сьмеласьці ні застацца ў самоце, ні зноўку ажаніцца. Паміж змрочным існаваньнем кавалера й нудным жыцьцём у шлюбе ёсьць нейкая размытая, паэтычная тэрыторыя: назавем яе шчасьцем. Шлюб неабходны, каб абараняць баязьліўцаў ад праўды гэтага сьвету, якою ёсьць сьмерць, як кажа Сэлін у сваім "Падарожжы на край ночы". Але каханьне - гэта падман, які мае свае дадатныя бакі, кажу я сабе, пакусваючы вушка Дэльфіны пад месяцам, падвешаным на вышыні 384400 кілямэтраў над нашымі бязьвіннымі галовамі.

тэкст: Наталя Лазука дызайн: VitaminV

# V-IDEA
## мастацтва рэ-трансьляцыяў

***Сынкрэтызм. Поліварыянтнасьць. Поліфанічнасьць. Прыклад аб'яднаньня "ўсяго і ўсіх" - відэа-арт (ВА). У яго шмат твараў: экспэрымэнтальнае кіно, відэа-інсталяцыя, "вельмі кароткі фільм" і г.д. Але самае асноўнае - выкарыстаньне магчымасьцяў відэатэхнікі: тэлепрымачы, відэакамэры, маніторы. Гэта не ТБ - Макс Фрай называе ВА "магістральным кірункам актуальнага мастацтва", якое й дэманструюць на вялікіх прасторах. Зь людзкімі рэсурсамі, гатовымі аглядаць відэа-арт - больш складана, але Наталя ГАРОВІЧ знайшла ў сабе сілы на час пераключыць увагу са звычайнага відэа па тэлеку на відэа-мастацтва. Атрымалася нешта...***

## BROADCASTING

ВА "нарадзіўся" ў 1963 годзе ў горадзе Вупэрталі на адкрыцьці першай пэрсанальнай выставы Нам Джун Пайка ў галерэі "Парнас". Недысцыплінаваны пасьлядоўнік новай музыкі выкарыстоўваў тэлевізары на манэр Джона Кейджа - нью-ёрскі авангардыст падчас дэманстрацыі сваіх працаў па-рознаму шумеў, чым саманатхнёна нэрваваў прысутных. У Пайка атрымалася нешта падобнае да перасоўваньня фартэпіяна і інш. музычных інструмэнтаў пад гукі неапісальнай какафоніі. Ну в-в-вельмі канцэптуальна. Яго адразу ж запісалі ў патрыярхі ВА, а ў падручніках па мастацтве XX ст. у якасьці ўзорнай дэманструюць ашаламляльную статую Буды, які сядзіць перад тэлевізарам.

Зямляк Формана ды Ўорхала (у сэнсе, чэх) і заснавальнік знакамітай нью-ёрскай галерэі "The Kitchen" Штэйн Васулка стаў яшчэ адным клясыкам ВА. Пра свой творчы мэтад сам Васулка кажа вельмі цьмяна і незразумела - "мастацтва з дапамогай кампутара, але не кампутарнае мастацтва", "хутчэй штудыі, чым мастацтва", хаця яго працы надзіва

канкрэтныя і вобразныя. Ён спрабуе знайсьці суадносіны паміж візуальнай выявай і музыкай - напрыклад, паміж камэрай і скрыпкай у "Тэатры Гібрыднага Аўтамата". "Зьнешняя і ўнутраная прастора знаходзяцца тут у стане безупыннай камбінацыі. Хуткасьць зьмены кадраў адпавядае рытму музычнага малюнку". Сальеры не забівае Моцарта, а дапаўняе яго.
Эндзі Ўорхал жа спрабаваў папросту спыніць несупынны час і прасачыць, як ён адбіваецца на чалавеку. Атрымлівалася канцэптуальна, але як на сёньняшні дзень, дык задужа занудна: зьнятыя на зафіксаваную камэру Эмпайр-Стэйт-білдынг ці хтосьці з заўсёднікаў "срэбнай фабрыкі" (які яшчэ і калупаецца ў носе) - статычныя і нязьменныя цягам сямі гадзінаў. І ўсё кіно!..

У канцы 70-х прыйшоў час стварэньня аналаў. Музэй Сучаснага мастацтва (Нью-Ёрк) у 1970 годзе адкрыў аддзел відэакалекцыяў, дзе знаходзілася больш за 800 працаў - ад адукацыйных і дакумэнтальных фільмаў да працаў мастакоў, асноўным сродкам якіх стала відэа. І ўжо тут можна казаць пра тое, што такое ВА сёньня.
Гэта альбо бясконцы паўтор аднаго і таго ж сюжэту, кадра, руху, слова, альбо нігілістычныя выбрыкі ў стылі "а ці не патаптацца мне па культурнай спадчыне?". Апошнія добра ілюструюцца працай расейцаў Алейнікавых "Трактарысты-2" (1992). Рэмэйк культавага фільму "Трактарысты" (рэж. Пыроў, 1939) - гэта суцэльны колькігадзінны зьдзек з асноўных прыкметаў "заможнага" жыцьця селяніна, з саўдэпаўскіх ідэалягічных замарочак. Заслуга Алейнікавых ва ўзбагачэньні досьведу ВА - спалучэньне сацарту і ВА.

Прайшоўся ВА і па канцэпцыі "сьмерці чалавека-гледача" - адразу ж зьявілася мода на статычныя фігуры, што тупа ўтаропіліся ў блакітны тэлеэкран (чым ня мы самі пасьля працоўнага дня?).

Здаецца, усё, што выйшла з авангарду, аматарскага ды экспэрымэнтальнага кіно - і ёсць ВА. Любая тэхнагенная замарочка адразу ж уцягваецца ў працэс. Тое самае датычыцца і NETу. А што замінае выкласьці на сайціку ўласныя экспэрымэнты з камэркамі і апаратуркай? Мяжа паміж гэткім клонам ВА і net-артам (сеткавым мастацтвам) ужо амаль сьцерлася. Тэхналёгія ж размывае яе і далей. Тэлевізійныя апытаньні з web-адрасамі: што гэта, TV ці сеткавы інтэрактыў? А інтэрактыўны ВА па web-TV з адпаведнай аўдыторыяй і сеткавымі камунікацыйнымі магчымасьцямі - гэта відэа- ці net-арт? Пытаньні, пытаньні...

# ANGELS ARE PLAYING WITH MY БЕЛАРУСЬ

Зьлёту назваць беларускага ВА-мастака складана. Хтосьці кагосьці бачыў, нешта недзе чуў... “Культурныя лідэры” ў большасьці сваёй застаюцца інкогніта. Калі зь нейкім аўтарам і сустракаесься, звычайна размова пачынаецца з “Ну, я ня тое каб...”.

Тым ня менш, шмат хто зь мясцовых актуальных аўтараў выкарыстоўвае ВА побач зь інсталяцыямі і фатаздымкамі. Пэрформэр Людміла Русава на выставе “Гульня зь лялькай” (галерэя Nova, 2002 г.) побач з фатаграфіямі Сяргея Ждановіча зьмясьціла запіс гульні з манэкенам-цацкай (цётачка сядзіць за сталом насупраць манэкена) - аналягам двайніка-ценю (рэмінісцэнцыі на татальную самоту чалавека ў Сьвеце, “цацачную” ролю жанчыны ў грамадзтве і інш.). Наталя Залозная дэманстравала апошнія хвіліны жыцьця рыбіны, якая філязафічна праецыравалася на сапраўдны кухонны стол (каму сьмерць на патэльні, а каму жыцьцё ў мастацтве). І гэта толькі некалькі прыкладаў са сьнегазвалу спарадычных узьнікненьняў ВА ў беларускай прасторы, урваных, лічыце, са складоў памяці рэдкіх ахоўнікаў найноўшага беларускага мастацтва.

Прасьцей дакрануцца да людзей - у прамым і пераносным сэнсе - па наводцы знаёмых. Так я пазнаёмілася зь менскай канцэпт-групай “an angelico'” (АА) - Антонам Слюнчанкам і Віталем Дзегцяровым.

Ідэя праекту вымалёўвалася паступова: кропкай адліку сталі ўласныя працы - ВА, фота, увага да клясычных рэпрадукцыяў і Ідалаў сучаснасьці. Гэта было ідэйнай глебай “АА”. Зварот да Ідалаў першапачаткова адлюстраваўся ва ўласным пэрформансе Антона “Размова з ТБ” (“TV conversation”, міжнародны праект “View Assistance”, Базэл, Швэйцарыя, 1999 г.), калі, зачыніўшыся ў спортзалі  з тэлевізарам, аўтар да мяжы магчымага “ганяў” на трэнажоры, уяўляючы сабой жывую антытэзу пэсымізму і чалавечай бязвольнасьці, увасобленым у культавым фільме Д.Джармана “Блакітнае” (ён і дэманстраваўся па тэлевізары).

На BY-сцэне “АА” зьявіліся падчас Беларускага міжнароднага мэдыя-фэсту “Транзыт_01.by”, калі ў Доме кіно экспанавалі відэа-інсталяцыю “Only happy life is true”. Ідэйнай апорай быў “Лёгіка-філязофскі трактат” таварыша Л.Вітгенштайна - “хто баіцца

сьмерці, той вядзе няправільнае жыцьцё". Ілюстраваўся гэты лёзунг вельмі своеасабліва: на плоскасьць мусілі праецыравацца 3 архетыпы: мужчынскі (абстрактны салдат), жаночы (рафінаваная мадэлька Kate Moss) і вобраз духу (скульптура Мадоны) "хадзілі па коле", а паміж імі часам амаль няўлоўна для вока мільгаў чэрап (зноў дзядзька Фройд са сваімі Эрасам ды Танатасам).

На жаль, арганізацыя фэсту была як заўсёды, таму ўся гэтая дзея папросту ішла па тэлевізары, што зводзіла канцэпцыю на zero. Недзе а палове на 12-ю ночы "АА" вырашылі зрабіць "як трэба" і аднавілі інсталяцыю... на будынку гатэлю "Мінск". Гледачоў, вядома, ужо не было, затое мясцовая мянтура далучылася да прыгожага.

У лістападзе 2001 году "an angelico" зьдзейсьнілі выставу "Dialogue" (Менск, Дом дружбы народаў), дзе праецыраваліся фатаграфіі мадэлек, а насупраць былі вывешаныя габэлены вядомай швэйцарскай мастачкі-авангардысткі Лізы Штоўфэр. На ўсё гэта накладаліся гукі мора - прыбой і музычныя шумы (аўдыяльнае суправаджэньне рабіў той жа А.Савіцкі). Цікава, як муціруе ў нас мастацтва пад уплывам Сыстэмы: "АА" распавядалі, што праект павінен быў звацца "Ной" (экспазыцыйная прастора асацыявалася з каўчэгам), але ідэю арганізацыйныя органы не зразумелі. Назву зьмянілі на трывіяльныя "Дыялёгі".

Канцэпцыя "АА" мабільная, і зьвесьці яе да некалькіх выразаў цяжка. Так, назва групы зьявілася ад прозьвішча мастака Фра Анджэліка (раньняе Адраджэньне, флярэнтыйская школа) і яго выяваў саладжавых анёлаў. Стрыжань творчай канцэпцыі "АА" - перапляценьне сакральнай гістарычнай сымболікі і сучаснай штучнай "боскасьці". Сапраўды, сьвет высокай моды стаў тым мітычным Алімпам, дзе ёсьць свае "культы" (кельвіны-кляйны й ніны-рычы), а героі (кляўдзіі-шыфэры й наомі-кэмпбэлы) - сапраўды бесьцялесныя істоты, бездакорна прыгожыя і ідэальныя. Аўтары праекту шматразова прапускаюць выявы рэальных мадэлек праз фільтры: фота-малюнак-фота-відэа. На чым усё завязваецца? Сучасны чалавек ня бачыў/ня бачыць сапраўдных працаў, арыгінал як прадмет эстэтычнага задавальненьня для яго не існуе. Проста і з густам.

Атрымліваецца, што самым простым шляхам да сэрцаў шматлікай публікі становіцца VJ-інг у выкананьні "АА". Нашыя героі і прома-група Jet Sounds, па трапных назіраньнях некаторых, паступова зрастаюцца, але ці кепска гэта? Бадай, не - прыгожае цягнецца да такога ж. Дый Ярык з Канём удала дапаўняюць візуалаў "АА".

Так існуе беларускі ВА. Праходзіць мноства міжнародных фэстаў, пра якія ніхто нічога ня ведае, канцэпцыі ламаюцца праз адсутнасьць min тэхнікі. Ужо згаданы міжнародны фэст экспэрымэнтальнага кіно "Праекцыі", які ўсё ж неяк прагучаў, бачнага штуршка ў бок папулярызацыі ВА ня даў. Пасьля фэсту тыя, каму гэта было б цікава, яшчэ месяц перапытвалі адзін у аднаго: "А што гэта было?"




**Блізка-далёкія**

PL: У Варшаве ёсьць Замак Уяздзоўскі, дзе арганізуюцца выставы і акцыі сучасных творцаў. Там, у самым сэрцы польскага актуальнага мастацтва, часам працуюць і BY-канцэптуалісты, а таксама ўдзельнічаюць у міжнародных мэдыя-фэстах, напрыклад, WRO (Уроцлаў).

UA: У Кіеве ладзіцца ВА-фэст "KI-MAF", а ў Цэнтры сучаснага мастацтва Кіева-Магілянскай акадэміі час ад часу арганізуюцца ВА-экспазыцыі.

RU: У расейцаў праходзіць Маскоўскі міжнародны мэдыя-форум (http://www.mediaforum.danet.ru) - найбуйнейшы на постсавецкай прасторы. Там жа месьціцца "ТВ-галерея", якая прапагандуе ВА. Нечым падобным займаецца "Галерея 21" у Пецярбурзе. Раз-пораз ВА ўзьнікае і на "Арт-Москве".





## Ямайка

Невялікая выспа ў Карыбскім моры плошчай 11,5 кв. км. Паводле аўтэхтонаў - індзейцаў аравак - "Зямля крыніцаў". Была адкрытая Хрыстафорам Калюмбам у 1494 г. Калянізатары-гішпанцы вынішчылі амаль усё мясцовае насельніцтва і пачалі масава завозіць на выспу рабоў з Афрыкі. Тых




мурынаў пакінулі самнасам са сваёй вечнай тугой па радзіме: калянізатары амаль не навязвалі ім хрысьціянства, эўрапейскія звычаі, і чарнаскурыя рабы падчас працы на плянтацыях, у абедзенныя перапынкі, а збольшага ў непрацоўны час пілі ром, палілі каноплі, сьпявалі афрыканскія песьні, танчылі такія ж танцы і прытрымліваліся прывезеных з сабой старажытных рэлігійных культаў.

Такім быў вуду, які захаваўся на Я дагэтуль. Заходні маскульт растыражаваў вуду як "чорную" рэлігійную плыню, што зьвязаная ў тым ліку з канібалізмам. Таблёіды таблёідамі, а калі ўзяць тых жа ведзьмакоў бакора, якія "ажыўляюць" мерцьвякоў і падпарадкоўваюць іх волю сабе, трымаючы душу ахвяры ў бутэльцы?..

У 17 ст. Я стала брытанскай калёніяй, а таксама сусьветным цэнтрам пірацтва і кантрабанды. Невядома, колькі б цягнулася гісторыя піратаў Карыбскага мора, калі б не землятрус, які зьнішчыў галоўны пірацкі горад Порт-Раяль і пасьля якога пірацтва паступова прыйшло ў заняпад.

Толькі ў 1962 г. Я атрымала незалежнасьць, і ў хуткім часе Амэрыку і Эўропу змыла цунамі Я-скай культуры: музыка, вераваньні, эстэтыка, мода.

Першы штуршок паходу на Захад дала электрыфікацыя Я, дакладней, яе яскравая амэрыканізацыя. Неяк тубыльцы пачулі па радыё джаз, у стылі якога і былі перапрацаваныя народныя Я-скія mento і calypso (музыка Трынідад і Табага). У выніку сьвет пачуў рытмы ska (гіпатэтычна, назва гукапераймальная: так гучыць гітара падчас выкананьня). У 1964 г. ska быў заяўлены на нейкай міжнароднай выставе ў ЗША ў якасьці Я-скага нацыянальнага танцу, што фактычна дало яму грын-карту на легалізацыю па ўсім сьвеце. Першымі ўпадабалі ахрышчаны "Я-скім блюзам" ska брытанскія моды. Разам з вузкабортнымі капелюшамі, цёмнымі акулярамі і клятчастымі пінжакамі гэтая музыка стала элемэнтам іх іміджу "прыблатнёнага інтэлектуала" як сымбалю свабоднага чалавека.

Другая хваля заваёву амэрыканскай і эўрапейскай поп-сцэнаў пачалася з прыходу рэгей-музыкі, якая нарадзілася на высьпе напачатку 1960-х. Пабудаваная на афрыканскіх музычных рытмах, яна ўяўляла сабой запаволенае спалучэньне ska і rock-steady (з узмоцненымі басамі).

Многія схільныя лічыць, што менавіта з rock-steady пачалося сучаснае techno: rock-steady-кампазыцыі падчас масавага тыражаваньня дапаўняліся вэрсіямі бяз саўнду, такім чынам "дублі" сталі папулярнымі і распачалі новы самастойны стыль - даб. Якраз напрацоўкі Я-скіх піянэраў дабу і сталі базай для сучасных тэхна-DJ.

Грамадзка-палітычнае гучаньне рэгей надавалі злабадзённыя тэксты: Боб Марлі, Пітэр Тош, Бані Ўэйлер заклікалі да страйку духу, да змаганьня з грузам рабскіх звычак, навязаных ілжывым грамадзтвам. Менавіта праз музыку рэгей сьвет даведаўся пра растафарыянства - рэлігію, карані якое ідуць да старажытных афрыканскіх культаў. Вера ў Джа, у вызваленьне ўсіх афрыканцаў і вяртаньне іх у райскую Этыёпію - "самыя-самыя" тэарэтычныя моманты, што выдатна адпавядалі духу значнай колькасьці неямайцаў.

Зь нетраў растафарыянства ўзьнік лайф-стайл, збольшага павярхоўна зьвязаны з самой рэлігіяй, - растаманства. Пазнаць клясычнага растамана ў любой краіне няцяжка: свабоднае ўбраньне, у колеравай гаме якога прэвалююць чырвоны, жоўты, зялёны, арнамэнты, пярсьцёнкі, бранзалеты і фенькі, лянівая хада ў рытме рэгей, усьмешка на твары, выкліканая пэрманэнтным паленьнем травы мудрасьці - канопляў (па-растаманску - ганджы). Мова растамана антрапацэнтрычная: мадэль "I and I", слова "Я" выкарыстоўваюцца як пацьверджаньне таго, што ў кожным чалавеку ёсьць часьцінка Бога. І, вядома ж, фрызура - дрэды (ад анг. dread - страшны, жахлівы) - асаблівыя каўтуністыя растаманскія касічкі, ад якіх стагодзьдзямі не маглі пазбавіцца дзеці зь бедных Я-скіх сем'яў і якія дзякуючы Бобу сталі сымбалем пэўных музычных, эстэтычных і рэлігійных прыхільнасьцяў.

***Таня Кавальчук***

## Якудза

Для большасьці Я - японская мафія - стала вядомая дзякуючы кіно. Напачатку 1990-х галоўнымі героямі фільмаў, акрамя ніндзя-адзіночак, сталі нешматслоўныя, заўсёды хмурныя асобы зь целамі, багата дэкараванымі каляровымі татуіроўкамі, і стылем жыцьця а-ля "поўная-адсутнасьць-павагі-да-ўстаноўленых-законаў-крыважэрнасьць-кланавасьць". Такімі галівудзкія рэжысэры бачаць сучасных Я.

Гісторыя японскай мафіі ўзыходзіць да трох напаўкрымінальных груповак сярэднявечнай Японіі: гарадзкіх вартаўнікоў маці-ёкко, кошнікаў тэкія і прафэсіянальных гульцоў бакута.

Маці-ёкко называліся ў 17 ст. атрады самаабароны, што ствараліся гараджанамі і сялянамі для змаганьня з бандамі рабаўнікоў. У такія атрады ішлі людзі, якім у прынцыпе не было чым заняцца: гарадзкія зладзюгі, хуліганы і гульцы. Чым у хуткім часе для саміх японцаў абярнулася стварэньне такой самапомачы, тлумачыць ня трэба.

Кошнікі тэкія пачыналі сваё існаваньне менш ваяўніча. Гэта былі звычайныя дробныя гандляры, якія соваліся па прасторах Японіі і, каб абараніцца ад рабаўнікоў і ашуканых кліентаў, пачалі аб'ядноўвацца ў групы. Хутка групы аформіліся ў арганізацыі з дакладнай іерархіяй: шэф, яго намесьнік, афіцэры, шарагоўцы і вучні, - і пачалі кантраляваць і наводзіць свае парадкі на кірмашах. У 18 ст. імпэратарскі двор, ня будзь дурнем, прапанаваў ім легалізацыю, і тэкія дапамагалі дзяржаве кантраляваць гандаль.

Бакута - нешта кшталту прафсаюзу гульцоў - ствараліся зьверху: урад наймаў прафэсійных гульцоў, каб тыя весялілі рабочых на дзяржаўных будоўлях. Весялуха атрымлівалася файная: прафэсіяналы "кідалі на бабкі" прастакоў-рабочых, частку бабла бралі сабе, а частку аддавалі дзяржаве. Менавіта ад бакута пайшлі асноўныя цырыманіялы і адметнасьці сучаснай Я. Напрыклад, татуіроўка: кожны, хто зьдзяйсьняў злачынства, павінен быў татуяваць на запясьці чорнае кола (з часам працэдура перайшла і на сьпіну, прычым поўная татуіроўка гэтай часткі цела займала каля 100 гадзінаў). Альбо юбіцумэ (у галівудзкіх стужках яна нагадвае звычайную шынкоўку канечнасьцяў) - рытуал адразаньня фалангі пальца ў якасьці пакараньня за парушэньне законаў бакута, у выніку чаго Я ня можа цьвёрда, як раней, трымаць карты і меч.

Менавіта з жаргону бакута і пайшло само слова Я. "Я-ку-са" - назва адной з найгоршых камбінацыяў у картачнай гульні "ойцё-кабу" (аналяг нашага "ачко"), якая давала ў суме 20, а ачкоў - нуль. На слэнгу бакута слова "Я" азначала "нешта непатрэбнае". Хутка так пачалі называць саміх бакута.

З часам групоўкі аб'ядналіся, і ў 20 ст. паслугамі Я (шантаж, подкуп, запужваньне, замоўленыя забойствы) карысталіся і мілітарысцкія арганізацыі, і легальныя палітыкі. Афіцыйныя ўлады спрабавалі змагацца з гэтай зьявай, але безвынікова. Пасьля Другой Сусьветнай вайны акупацыйныя амэрыканскія ўлады прызналі, што абараніць шараговых японцаў ад Я немагчыма.

Я стварылі свой адметны стыль адзеньня, які шмат у чым капіяваў стыль амэрыканскіх гангстэраў - чорныя строі і гальштукі, белыя кашулі, кароткія фрызуры, цёмныя акуляры.

Жыцьцё і бізнэс Я сталі традыцыйнымі сюжэтамі японскага жанравага кіно. У японскім разуменьні зь яго павагай да моцных духам, да сямейных канонаў і да кодэксу гонару Я - сапраўдныя героі, хоць і злачынцы. Культ Я-героя стварыў у фільмах "Санатына", "Брат Я" і інш. рэжысэр Кітана Такэсі (па чутках, яго бацька зьвязаны зь Я). Хаця ня ўсе японскія рэжысэры трапятка ставяцца да культу Я - Кінджы Фукасаку ў "Баях бяз гонару і жалю" намаляваў грубы партрэт нараджэньня сучаснай Я, пазбавіўшы яе флёру рамантыкі. Амэрыканскае кіно таксама не засталося па-за тэмай, і татуяваныя злодзеі-прафэсіяналы ў чорных строях ня раз станавіліся галоўнымі героямі баевікоў (гл., напрыклад, "Амэрыканскі Я" Фрэнка Копалы).

У сучаснай Японіі каля 2330 групаў Я. Урад працягвае рабіць спробы змагацца зь імі: у 1992 г. быў прыняты Акт аб папярэджаньні незаконных дзеяньняў сяброў злачынных груповак, які забараніў "абарончы рэкет" - асноўны бізнэс Я - і вызначыў любы сход, на якім прысутнічае пэўная колькасьць судзімых, як злачынную групоўку. Але клясыкаў трэба ведаць, спадарства ўрадаўцы: мафія - бесьсьмяротная!

***ToSola***



**Суботнім вечарам, калі ў чарговы раз на тваім засраным мухамі маніторы самурайская конніца адкідае аддзелы шалёнай ацтэцкай пяхоты, а кітайскія танкі прарываюцца ў напаўразбураны Нью-Ёрк, пачынаеш задумвацца: а клёва было б павесьці на гэтых япошак наваградзкіх рыцараў! Альбо яшчэ лепш - ламануцца ў шэрагі крыжакоў на Грунвальдзкім полі. Ці выканаць супэрсакрэтнае заданьне беларускага ўраду па здабыцьці зьніклага вагона з навюткімі беларускімі талерамі. Адным словам, задзяўбала гуляць у чужыя гульні - хочацца пагуляць у Беларусь.**

Вацлаў Арэшка

# KINGDOMS OF BELARUS

## "ЦІ Ў ВАС ЁСЬЦЬ...

...гульні пра Беларусь?" - запытайцеся на латках кампутарных гульняў на "Дынаме" ці Нямізе: прадаўцы адно што зьедліва пераглянуцца, у сэрцах спытаўшыся "што за дэбіл?", а можа, не зразумеўшы, шчыра запрапануюць што-небудзь расейскае пра "велікую ацечэственную". Але адчайвацца - апошняя справа: добра пашукаўшы, можна і сярод "Квакаў", "Варкрафтаў" і "Мароўвіндаў" знайсьці рэдкія згадкі пра існаваньне ў віртуальным сьвеце гульняў блакітнавокае Бацькаўшчыны.

Відаць, першай спробай беларусаў адлюстраваць на кампутары айчынныя рэаліі была сьціплая саматужная гульня, якая зьявілася, здаецца, гадах у 1995-96. Яна займала 40-50 кілябайт і спрытна распаўсюджвалася без усялякай дыстрыбуцыі. Сюжэт яе быў вельмі просты: на бел-чырвона-белым фоне мітусілася знаёмая ўсім беларусам пачварка, якую трэба было проста "замачыць". Калі гулец мазаў, "куля" траплялa ў фон, і пасьля ўдалых/няўдалых спробаў зьнішчаліся адпаведна пачварка ці каляровае тло. Забаўка пару гадоў вандравала па кампутарах, задавальняючы крыважэрныя інстынкты дэмакратычна арыентаванай публікі, а потым паціху зьнікла й забылася. Зараз знайсьці яе цяжка. Хіба што дагэтуль валяецца ў кагосьці на вінце - сам быў бы вельмі ўдзячны за прэзэнтаваны ў калекцыю файлік.
Па праўдзе, гэты выраб і гульнёй назваць было цяжка, але ўражвала тое, што кампутар - заморская штучка - паказвае пра нас. Гэтак жа ўражвалі на пару гадоў раней і першыя мультымэдыйныя энцыкляпэдыі: глядзі, напісана "Belarus" - насельніцтва, плошча ў кілямэтрах, палітычныя партыі - "камуністы", "народны фронт", а калі тыцнуць у гузік, дык гугнявіць бяз словаў: "мы беларусы з б..." і выяжджае бел-чырвона-белы сьцяг. Супэр!

## "EUROPA UNIVERSALIS" - ЦІ МЫ ТУТ ЁСЬЦЬ?

Акіян кампутарнага бізнэсу каціў свае хвалі міма нас, і геймэры сьвету захапляліся прыгодамі ангельскай арыстакраткі Лары Крофт ды пабудовамі рымскіх, грэцкіх ці іншапланэтных цывілізацыяў, абсалютна ня ведаючы, што ў нас таксама ёсьць надзвычайна пекныя Лары і страшэнна цікавая ды авантурная гісторыя. Хаця менавіта ў гістарычных стратэгіях Беларусі знайшлося хоць нейкае месьцейка!
У 2000 г. зьявілася "Europa universalis" ад Paradox Entertainment, якая хутка набыла папулярнасьць у геймэраў і займела высокі рэйтынг сярод стратэгічных гульняў. Падзеі ў ёй адбываліся ў посткалюмбаву эпоху і да 19 ст. Сярод краінаў, якія гулец мог выбраць, каб разьвіваць сваю эўрапейскую імпэрыю ці, хутчэй, выкручвацца з розных эўрапейскіх праблемаў, можна было ўзяць "Польска-Літуанію", ці па-сапраўднаму Рэч Паспалітую. "Europa universalis" была больш-менш прывязаная да рэальных гістарычных падзеяў - напрыклад, можна было паўдзельнічаць у Паўночнай вайне ці паспрабаваць абараніць сваю дзяржаву ў часе падзелаў канца 18 ст. Беларусь прысутнічала на мапе гульні як адна з правінцыяў Рэчы Паспалітай, побач з "Полацкам", "Мазыром" ды "Літвою", якая чамусьці апынулася ад Беларусі на поўдзень. Апрача прыемных для беларускага вуха назоваў нічога нацыянальна-асаблівага ў гульні не было, дый для "віртуальна-рэалістычных" абразкоў старасьвецкага жыцьця жанр пакрокавых стратэгіяў увогуле ня надта пасуе.

Больш захапляльнай і цікавай візуальна стала гульня "Казакі" - real time-стратэгія, распрацаваная ўкраінскімі спэцыялістамі, тыражаваная ў Расеі і вядомая ва ўсім сьвеце: пэўны час яна займала першыя месцы ў рэйтынгах (украінцы апошнім часам сур'ёзна прасоўваюцца на сусьветны рынак гульняў). У "Казаках"




**EUROPA UNIVERSALIS**
*як бачым, Беларусь павінна быць па дарозе зь Вільні на Полацак*

Беларусі як суб'екта не было, не было і Вялікага Княства Літоўскага, затое прысутнічаў такі камплект нашых суседзяў: Украіна (ясна ж!), Польшча і Расея. Беларусам, у залежнасьці ад сваіх палітычных, канфэсійных, цывілізацыйных ці эстэтычных перавагаў можна было далучацца да "малодшых" ці "старэйшых" славянскіх братоў - зусім як у сапраўднай гісторыі.
З актантаў нашай гістарычнай сцэны можна было дадаць швэдаў, туркаў ды прусакаў. (Сам я звычайна гуляў за Польшчу супраць Расеі, дадаючы ёй у хаўрусьнікі, у адпаведнасьці з гістарычнай праўдай, то швэдаў, то ўкраінцаў.) Гульня "Казакі" адрозьнівалася выдатнай графікай і гістарычна дакладнай прапрацоўкай (падзеі адбываюцца ў 17-18 стст.) касьцюмаў і архітэктурных аб'ектаў. Таму пабудаваная краіна выглядала досыць праўдзіва.
У бітвах я, часам захапіўшыся выглядам нашых крылатых гусараў, якія рубаюць у капусту маскоўскіх стральцоў, забываўся пасласьць некалькі драгунаў у прыкрыцьцё і... Адным словам, "Казакі" сапраўды маглі падарыць нямала прыемных гадзінаў і беларусу. Гульня гэтая і цяпер жыве - нядаўна выйшаў ужо яе трэці аддон - раю паспрабаваць.

## ARMORED FIST - ЦІ ГЭТА МЫ?

Калі ў гульнях гістарычнага жанру Беларусі ня вельмі шанцавала, то, магчыма, у імітацыях сучаснасьці месца Бацькаўшчыны больш адметнае? Як сказаць...

Сучасный РБ месца знайшлося пераважна ў ваенных сымулятарах. Шэсьць гадоў таму патрапілася мне ў рукі гульня ад фірмы Novalogic - сымулятар амэрыканскага танку "Abrams" Armored Fist II. На той час ён сапраўды быў вельмі неблагі, але мяне ўразіла іншая рэч.
Сярод кампаніяў, якія мог прайсьці віртуальны танкіст, прысутнічала місія "Бясьпечны сьвет", дзеля якой цалкам адбываецца ў Беларусі. Звычайна распрацоўшчыкі сур'ёзных ваенных гульняў хваляцца тым, што тэмы і сюжэты іхных праектаў будуюцца на праўдзівых распрацоўках НАТА ці Пэнтагону. У гэтым хіба ёсьць частка праўды, тым болей што патэнцыйныя ворагі ці хаўрусьнікі, як і сцэнары магчымых канфліктаў, не зьяўляюцца на Захадзе такой ужо таямніцай. Да сярэдзіны 1990-х сярод віртуальных іранаў, аўганістанаў, балівіяў і палестынаў зьяўляюцца Касьпій, Сярэдняя Азія, Каўказ, Балканы і... нашая сінявокая.
У "Бранявым кулаку" вы атрымліваеце пад сваю каманду лепшы ў сьвеце танк і працуеце ў складзе танкавай роты амэрыканскай арміі, якая выконвае міратворчыя задачы ў розных кутках сьвету. Беларускі сцэнар такі цікавы, што я дазволю сабе яго кароткa пераказаць.
У Беларусі ідзе барацьба паміж дзьвюма групоўкамі. У адной ("чырвоныя") можна ўгадаць кансэрватыўныя пракамуністычныя сілы. Другая ("шэрыя") - дзеючы ўрад. Каб прымусіць бакі да міру, якога патрабуе ААН, міратворчыя сілы НАТА канцэнтруюцца каля польска-беларускай мяжы. Ваша першая задача - не дапусьціць нападаў на польскую тэрыторыю ў раёне Беластоку. Затым міратворчыя войскі пачынаюць прасоўвацца на Ўсход, і вы прыкрываеце разгортваньне сілаў НАТА каля Горадні.



**ARMORED FIST II**
*беларускія прасторы скрозь прыцэл "Эбрамсу"*

Наступная місія - штурм авіябазы "чырвоных" пад Баранавічамі - мая любімая: падзеі адбываюцца ў раёне дому маіх сваякоў, дзе я неаднойчы балдзеў, у тым ліку каля той самай базы. Там нават хвасты самалётаў з дарогі былі бачныя. На жаль, віртуальны ляндшафт ня меў амаль нічога агульнага з баранавіцкімі краявідамі, але не бяды. Я ўсё роўна адчуваў містычную рэальнасьць таго, што адбывалася. Маёй місіяй было "ачысьціць наш край ад чужынскіх (у дадзеным выпадку "чырвоных") зграй". Колькі гадзінаў я адпакутаваў, сьціскаючы потны джойстык і мацаючы вачыма чарговы Т-60 пад роднымі Баранавічамі!
Затым трэба прарваць пазыцыі "чырвоных" на ўсход ад Менску. Але, нягледзячы на ўсе нашыя высілкі, сілы праціўніка нарошчваюць сваю ініцыятыву. Па зьвестках выведкі, "чырвоныя" маюць аднекуль моцную падтрымку, а "расейскія афіцыйныя асобы сьцьвярджаюць, што ня ведаюць, чаму "чырвоныя" так узмацнелі". Мы на некаторы час займаем абарону. Урэшце НАТА, сканцэнтраваўшы сілы, пераходзіць да наступу, і нашая задача - не дапусьціць, каб да праціўніка падыходзіла падтрымка звонку. Галоўная база "чырвоных" знаходзіцца - дзе б вы падумалі? - каля Магілёву (пэўна, стваральнікі гульні ня ведалі пра існаваньне такой геаграфічнай кропкі, як Шклоў). Раптоўна варагуючыя партыі заключаюць мір, і - фінал: абодва бакі гатовыя напасьці на міратворчыя сілы ААН, бо бачаць у тых пагрозу. Мы павінныя не дапусьціць пашырэньня канфлікту...

Калі ў сярэдзіне 1990-х асноўнай пагрозай з тэрыторыі былога сацлягеру ўяўляліся асобныя "рэгіянальныя" агрэсіўныя рэжымы, дык у канцы 1990-х тыповы сцэнар ваенных гульняў усіх жанраў становіцца прыкладна такім: у Маскве прыходзіць да ўлады камуна-фашысцкая хунта, адны краіны былога эсэсэсэру добраахвотна, іншыя - прымусам далучаюцца да адроджанай імпэрыі зла, якая пачынае пагражаць астатняму сьвету ваеннай экспансіяй.
Менавіта ў такім духу вытрыманы сымулятар баявога гелікоптэра "Gunship!". Там таксама ёсьць місіі ў Беларусі - пачынаць даводзіцца з абароны польскай мяжы пад Беластокам ад гатовых да ўварваньня ў напалову здадзеную ім Эўропу аб'яднаных нэасавецкіх арміяў. Нічога не нагадвае, а?
На жаль, большасьць добрых гульняў тых часоў канцэнтруецца на праблемах Каўказу ці Сярэдняй Азіі, абароне Латвіі альбо навядзеньні парадку ў Сыбіры. Выдатны тактычны шутэр "Delta Force" ад Novalogic, нягледзячы на мае мары, так і не дацягнуўся да беларускіх балотаў, сканаўшы ў аўганскіх пячорах. Шкада! "Delta Force" у першых сваіх двух выпусках быў супэрскім. Графіка, цікавасьць, агучваньне - усё было на ўзроўні. Дагэтуль прыгадваю гадзіны поўзаньня з аўтаматычнай вінтоўкай па ўзгорках ці засьнежаных палях ды тужлівы лямант у расейскіх акопах пасьля майго чарговага снайпэрскага стрэлу: "Убілі Толіка! Убілі Толіка!.."
Менавіта Novalogic вяртаецца да беларускай тэмы і ў сваім апошнім гелікоптэрным сымулятары "Comanche 4" (2001). Але сцэнар місіі "Апэрацыя "Хуткі адказ", прысьвечанай нашай шматпакутнай бацькаўшчыне, мяне сапраўды ўразіў.
Урад Беларусі папрасіў амэрыканскай дапамогі ў барацьбе з сэпаратыстамі. Партызаны, вядомыя як "Брыгада свабоды", ужо даўно наносяць удары з мэтай перашкодзіць камунікацыям і гандлю паміж Расеяй і Беларусьсю. Мясцовыя вайскоўцы няздольныя адбіваць іх націск, а ўрад не жадае ўцягвацца ў грамадзянскую вайну і ня можа вырашыць праблему перамовамі. Расея можа прапанаваць толькі абмежаваную дапамогу, таму Менск просіць сваіх хаўрусьнікаў з ААН аб падтрымцы. "Брыгада свабоды" ўжо даўно выступае супраць уключэньня Беларусі ў СНД. Ваш зьвяз "Грыфоны" будзе дыслякаваны каля беларуска-расейскай мяжы, дзе сэпаратысты асабліва актыўныя...



**COMANCHE 4**
*"Каманчы" тлумачаць беларусам, што сэпаратызм - гэта "не ест харашо", а беларусы дазваляюць сабе з гэтым не пагадзіцца*

Азнаёміўшыся з гэткім разьвіцьцём падзеяў ад часоў бравай роты "Эбрамсаў", ужо не зьдзіўляесься некаторым фантастычным праектам "як нам уладкаваць дэмакратыю ў Беларусі" і тым скокам вакол нашай краіны, якія рабіла апошнім часам заходняя дыпляматыя - як той казаў: "крок наперад - два назад". Сапраўды, гульні могуць быць вельмі павучальныя...

## "RESISTANCE" - ЦІ ГЭТА ПРА НАС?

На жаль, мне не давялося пагуляць у іншыя "цацкі" пра Беларусь - думаю, што гэты сьліс няпоўны. Адно што ў маім кампе засталіся гульні, дзе слова "Беларусь" нават ня ўзгадваецца, але чамусьці калі я "ўключаюся" ў іх сьвет, нешта балюча знаёмае сьціскае мне сэрца. Гэта найперш гульні сэрыі "Operation Flashpoint", зробленыя чэскай камандай Bohemia Interactive і выдадзеныя Codemasters. Іх ужо дзьве - "Cold War Crisis" і "Resistance", а неафіцыйных і напаўафіцыйных аддонаў - незьлічоная колькасьць.
Сюжэт "Resistance"/"Супраціву" такі: вы жывяце на невялікай высьпе-дзяржаве, вельмі падобнай да тыповай сярэднеэўрапейскай краіны. У адзін цудоўны летні дзень на вашай высьпе высаджваюцца чужынскія салдаты і гавораць, што ўсе павінны цяпер жыць лепш, і яны ведаюць, як. А хто ня з намі - той супраць нас і супраць нашага новага ўраду з таварышам Астроўскім на чале. У вас ёсьць выбар - паслужыць новай законнай уладзе альбо падацца ў лес. Ёсьць надзея, што праз нейкі час прыйдуць з выратаваньнем амэрыканцы. Але галоўная справа - "за нашую і вашую свабоду".



**OPERATION FLASHPOINT/RESISTANCE**
*"акупанты з "калашамі" і зорачкамі на касках расстрэльваюць закладнікаў*

А як жа з навагрудзкімі рыцарамі, Грунвальдзкай бітвай альбо сечай пад Воршай? Ёсьць даўнія чуткі, што пра Грунвальд нешта кляпаюць нашыя заходнія суседзі - палякі. Пра розных князёў са славянскімі і не зусім імёнамі рэгулярна вырабляюць прадукцыю суседзі ўсходнія. Пра паўднёвых суседзяў я ўжо казаў. А мы? М-м-м. Ну, пасьля гэтага артыкула і мы маем нейкі выбар, праўда?

## Япі

Я - скарот ад ангельскага young urban professionals - маладыя гарадзкія бізнэсоўцы, пасьпяховыя і амбіцыйныя, якія адносяцца да катэгорыі прафэсіяналаў, хочуць і могуць хутка рухацца па службовай лесьвіцы.
Тэрмін узьнік у 1968-м годзе падчас студэнцкіх хваляваньняў, якія пракаціліся па Эўропе. Росквіт стылю жыцьця Я прыпаў на Захадзе на 1970-80-я гг. і вызначыўся як супрацьлегласьць стылю жыцьця хіпі. Брудным, хайратым, якім былі пофігу грошы, камфорт і ўмоўнасьці, на зьмену прыйшлі добра апранутыя, багатыя і здольныя зарабляць грошы Я. Былыя хіпі закінулі фенькі ды растаманскія шапачкі і пачалі гуляць у новыя гульні - не з рэвалюцыямі, а з катыроўкамі акцыяў. І ў іх гэта атрымалася, як дагэтуль атрымліваецца ў новых пакаленьняў "залатой моладзі", што калісьці трапіла ў слоўнік на палях культавага "Пакаленьня Ікс" Дугласа Коўплэнда.



Хочаш стаць Я? Тады зразумей вельмі простыя ісьціны філязофіі self-made people.
Першы крок - зрабі сябе багатым, другі - абстаўся Я-стымі прыбамбасамі і выберы:

1. Стыль адзеньня - падкрэсьлена дзелавы. Пінжак абавязкова павінен быць ваўняны (цёмна-сіні, шэры, цёмна-шэры), манжэты - вытыркацца з рукава на 1,5 - 2 см, прыглушаныя колеры кашуляў, абавязковыя гальштукі - і, натуральна, няяркіх колераў, даўгія нэўтральнага колеру шкарпэткі, сапраўдны скураны абутак чорнага і вугальна-карычневага колеру, клясычны скураны рэмень гадзіньніка... Баленсіяга, Лягерфельд, Мантана... Ніякіх пярсьцёнкаў (акрамя заручальнага і пячаткі), сандаляў і кашуляў з кароткім рукавом... Ніякіх рэклямных асадак - толькі сапраўдны Паркер!

2. Стыль паводзінаў - строгасьць манэраў, карэктнасьць у зносінах, падпарадкаваньне агульнапрынятым правілам. Крок убок - правакацыя.

3. Каштоўнасьці - падкрэсьленая ляяльнасьць да дзяржавы, рэжыму і кіраўніцтва сваёй кампаніі. Дэкляраваная высокая каштоўнасьць сям'і, на якую ніколі не хапае часу. Павага да іерархіі. Крытэрыі ацэнкі чалавека - адукацыя, прыбытак, прэстыж працы.

4. Стыль жыцьця - праца-праца-спорт-праца. Адпачынак - пагроза згубіць магчымасьці і стаць неканкурэнтаздольным. Адрэналініста рэдкія адпачынкі - са скокамі з парашутам і пагружэньнем пад ваду. Здаровы лад жыцьця - no smoking, no drinking (толькі калі крыху best drink - а так трэба памятаць пра тое, што ня варта вылучаюцца з асяродку загарэлых і падцягнутых калегаў па офісе bierbauch'ам).

5. Рэчы-таварышы - усе тэхнічныя атрыбуты пасьпяховага дзелавога чалавека: аўтамабіль асаблівай маркі (БМВ, Поршэ ці Мэрс), асаблівай маркі гадзіньнік, кампутар-лэптоп, кватэра ў цэнтры з эрганамічнай мэбляй, спартовы трэнажор на палову флэту, мабіла з галасавым наборам нумару.

6. Страхі - згубіць месца, грошы, час, здароўе, разыйсьціся з жонкай, шантаж палюбоўніцы, боязь будучыні, страх быць не такім, як іншыя Я, страх пабачыць пасьпяховасьць ня-Я і згубіць пры гэтым веру ў правільнасьць ладу свайго існаваньня. Страх выйсьці з дому ў пакамечаным пінжаку і нэўроз з-за хвіліннага спазьненьня на сустрэчу.

Калі пасьлядоўна прытрымлівацца гэтых двух крокаў, можна ўвайсьці ў лік дакладна невядомага падатковай інспэкцыі і нязначнага адсотку маладых self-made man & women, што практыкуюць на беларускіх прасторах стыль Я. Але - наўрад ці станеш ім. Ты будзеш Я ў марах, як пісаў Коўплэнд.
Бо каб табе на ўсе суправаджальныя атрыбуты аўтэнтычнага Я хапіла грошай, трэба знаходзіцца ў іншым месцы, хутчэй за ўсё - на прарадзіме гэтай чалавека-зьявы. Беларускі бізнэс зь вечным кантролем дзяржавы і продажам турэцкіх пантофлікаў наўрад ці дазволіць паэтапна рэалізаваць пункты 1-5. Што гарантавана - дык гэта пункт 6.
Калі рэальна трапіш за мяжу, памяняеш ярлык на "япі а-ля беларус", "не-амэрыканец", "не-француз" і г.д., і калі дзікімі намаганьнямі здабудзеш сабе доўгачаканы капітал, рызыкуеш быць зусім ня young. Хоць urban і professional.

## Ярык, ды-джэй

Яраслаў Лукашэвіч, адзін зь першых прафэсійных менскіх ды-джэяў. Зараз жыве і працуе ў Маскве (рэзыдэнт клюбу "Территория").
Не памылімся, калі скажам, што ва ўспрыняцьці большасьці менскіх клябэраў асоба Я за апошнія два гады досыць моцна дэманізавалася і рамантызавалася. Зьвязана гэта з цэлым шэрагам прычынаў, але галоўных можна назваць дзьве. Для айчыны Яраслаў заўжды быў "промнем сьвятла" ў цёмным царстве музычнага невуцтва і цемрашальства. Да 2001 году яго рэгулярныя падарожжы ў блізкае і далёкае замежжа па LP-навінкі на доўгі час выводзілі Менск у эўрапейскі клюбны авангард. Другой, ня менш важнай прычынай стала прынцыповае рашэньне Я ў 2001 годзе прафэсійна займацца зьвядзеньнем плытаў, але не на радзіме, дзе клябінг - хутчэй рудымэнт начнога жыцьця, а на тэрыторыі Маскоўскай клюбнай імпэрыі. Паводле старой беларускай савецкай традыцыі актыўная прысутнасьць тутэйшага суб'екта ў сталіцы РФ апрыёры дазваляе яму прэтэндаваць на званьне "беларускі зэ бэст".
Тым ня менш, нягледзячы на місіянэрскі статус, Я не ствараў легендаў вакол сваёй біяграфіі.
Апошняя - выдатны ўзор новай беларускай мадэлі selfmade man.



Музычная кар'ера Я як непрафэсійнага музыкі пачалася з захапленьня творчасьцю групы Depeche Mode, культ якой быў надта моцны ў сталіцы БССР напрыканцы 1980-х - пач. 1990-х. DM найлепш адпавядала душэўным парывам героя, які праз іх пачаў цікавіцца іншымі разнавіднасьцямі тэхнакультуры. Пэўным шокам стала для Я касэта, на якой былі запісаныя андэрграўндныя тады праекты Prodigy, Orbital, KLF, U96. Наступнай падзеяй у шэрагу мэнтальных катаклізмаў Лукашэвіча была спроба арганізатараў легендарнай маскоўскай Gagarin Party правесьці ў Менску падобнае па грандыёзнасьці мерапрыемства. Паводле ўспамінаў Я, у манэж "Дынама" замест заяўленых некалькіх тысячаў чалавек прыйшлі паўтары сотні, сярод якіх апынуўся будучы ды-джэй. Нават такой малой колькасьці першых менскіх клябэраў аказалася дастаткова для таго, каб Я ўсур'ёз зацікавіўся электроннай музыкай.
Цікава адзначыць, што важныя адкрыцьці, зьвязаныя са сваёй будучай прафэсіяй, Яраслаў рабіў з дапамогай ідалаў маскульту (гл. абзацам вышэй). Так, разуменьне прызначэньня асноўных ды-джэйскіх целарухаў прыйшло з праглядам па канале VIVA выступу на Mayday DJ Marusha.
Першапачаткова Я граў з касэтаў з магнітнай стужкай, паколькі лічыў, што "вялікае глупства граць з плытаў, бо яны драпаюцца, да таго ж яны вялікія". Менавіта з МС ён пачаў граць у клюбе "Тумблер" (Switch Club), арганізаваным сумесна зь Лёшам Кутузавым. Пазьней з розных бакоў пачынае прыходзіць інфармацыя, што на Ўсходзе і на Захадзе ды-джэі граюць менавіта з плытаў. Ярык разумее, што ня мае маральнага права адставаць ад сваіх "прасунутых" суседзяў. "Я паставіў сабе за мэту перарабіць недарагія савецкія прайгравальнікі "Вэга-110" і купіць плыты. Мэта была пастаўленая, і праз нейкі час яна была выкананая. То бок мне перарабілі прайгравальнікі, а я прывёз з Масквы 15 LP". Першы больш-менш прафэсійны сэт Я, які быў сыграны на дыскатэцы ў к/т "Салют", уяўляў сабой страшэнную сумесь хаўсу, тэхна і трэнсу - менавіта гэтага стылю плыты выбраў ён у адной з маскоўскіх крамаў.
Новыя прафэсійныя вышыні, якія дасягаліся цяжкай і няспыннай працай, прынесьлі свае вынікі: у 2001 годзе, пасьля чарговага трыюмфу на "Казантипе", разам з Канём Я вырашае пакінуць Радзіму і зьяжджае ў Маскву. Там ён жыве і плённа працуе дагэтуль.
Што тычыцца місіі ды-джэя на дыскатэцы, то Я акрэсьлівае яе "максымальную адкрытасьць": "Музыка - гэта ня сродак зьбегчы ад сьвету, гэта частка таго ж сьвету. Калі ты адкрыты чалавек, то сьвет для цябе таксама адкрыты". Апошняе моцна ўплывае на пабудову сэту. Клябэрам у ім адводзіцца не пасіўная роля (ды-джэй даводзіць іх да патрэбнай кандыцыі), але актыўная - настрой людзей наўпрост уплывае на сэт.
Зараз Я - своеасаблівая легенда клюбнай культуры постсавецкага рэгіёну. Ён пастаянна зьяўляецца на Радзіме (ягоныя прамоўтэры тут - Jet Sounds Cosmic Corp.), увесну творчасьць Ярыка адзначыла The New York Times. Па нашых зьвестках, вяртацца на Радзіму ён не зьбіраецца.